ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ
ГАЗЕТА








# КУЛЬТУРА

№ 44 (357)
21 — 27 лістапада
1998 г.
КОШТ
6000 РУБЛЁЎ



**Удзельнікам і гасцям V Міжнароднага кінафестывалю краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў і Балтыі "Лістапад"**

**Дарагія сябры!**

Сардэчна вітаю вас на беларускай зямлі і выказваю надзею, што форум, які адкрываецца сёння ў Мінску, стане святам кінематаграфістаў, яшчэ адным мастом сяброўства паміж народамі, яшчэ адным крокам да іх духоўнага ўзаемаўзбагачэння.

Гэты восеньскі фестываль, што стаў ужо традыцыйным, працягвае развіваць закладзеныя ў ім прынцыпы пазітыўнага асэнсавання рэчаіснасці, сцвярджэння высокіх гуманістычных ідэалаў, спрыяе паглыбленню прафесійных сувязей творчых работнікаў і развіццю кінамастацтва краін СНД і Балтыі.

Перакананы, што вялікая сіла кінематографа будзе спрыяць стварэнню адзінай культурнай прасторы краін — удзельніц фестывалю і ўмацаванню стасункаў ва ўсіх сферах міжнароднага супрацоўніцтва.

Жадаю ўдзельнікам і гасцям кінафестывалю творчых дасягненняў, добрага здароўя, асабістага шчасця, набыцця новых сяброў.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА

21 лістапада 1998 г.


Алег Янкоўскі

**З 21 па 28 лістапада — усе на фестываль!**

# СТОМЛЕНЫЯ СОНЦАМ ВЫБІРАЮЦЬ "ЛІСТАПАД"!

І гэта так. Бо Міжнародны кінафестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад" вось ужо пяць гадоў збіраецца ў Мінску! Перад вамі паласа, складзеная з нашых архіўных фотаздымкаў. На ёй — "зоркі" кінематографа, якія ў розныя гады ўшаноўвалі Мінск сваёй прысутнасцю на "Лістападзе".

Сёлета ў конкурснай праграме фестывалю возьмуць удзел восем краін: Беларусь, Расія, Украіна, Літва, Латвія, Эстонія, Малдова, Арменія. Будуць прадстаўлены дваццаць стужак рэжысёраў К.Шахназарава, Р.Балаяна, Валерыя і Пятра Тадароўскіх, Л.Бабровай, С.Урсуляка, А.Сурыкавай, В.Чалдраняна, Я.Стрэйча, Д.Месхіева...

Фестывальныя стужкі, а сёлета гэта, у прыватнасці, "Краіна глухіх", "Дзеці панядзелка", "У той краіне", "Дзень поўні", "Два месяцы і тры сонцы", "Князь Юрый Даўгарукі", "Маленькі баец", "Госпадзі, злітуйся!" і інш. па традыцыі ацэньваюцца трыма журы (кінематаграфістаў, кінапрэсы і гледачоў).

Урачыстае адкрыццё Міжнароднага кінафестывалю "Лістапад-98" адбудзецца сёння, 21 лістапада, у сталічным кінатэатры "Кастрычнік".

Фота Андрэя БЯРЭЗІНА і Віктара ЗАЙКОЎСКАГА


Армен Мядзведзеў


Міхаіл Ульянаў


Яўген Матвееў


Карэн Шахназараў


Валерый Тадароўскі


Сяргей Макавецкі


Уладзімір Грамацікаў


Станіслаў Гаварухін


Марк Рудзінштэйн


Мікалай Бурляеў


Аляксей Булдакоў


Данатас Баніёніс


Лідзія Федасеева-Шукшына

Мікалай Алялін




Алена Якаўлева


Уладзімір Сцяклоў

*Зваротная сувязь*

## ПЫТАННЕ — АДКАЗ

*"Паважаная рэдакцыя!*

*Звяртаюся да вас з просьбай растлумачыць дзеянне загаду міністра культуры за № 192, пункт 3.7 ад 22.07.96 г.*

*Сутнасць справы ў наступным. Я працую педагогам музычнай школы і па сумяшчальніцтве кіраўніком народнага фальклорнага ансамбля "Лявоніха". Званне "народны" "Лявоніха" атрымала ў 1969 г., а мой стаж працы з калектывам 6 гадоў. Згодна з загадам міністра, я магу прэтэндаваць на атрыманне вышэйшай катэгорыі. У раённым аддзеле культуры (Ермакоў К.П.) і абласным упраўленні культуры (Падольская А.С.) мяне запэўніваюць, што на мяне гэты загад не распаўсюджваецца, бо званне "народны" атрымана да майго прыходу ў калектыў. Але ж у загадзе дакладна і ясна сказана, што праца з калектывам, які носіць званне "народны", з'яўляецца дастатковай падставай для атрымання катэгорыі. Калі маю рацыю я, дык як дамагчыся выканання гэтага загаду?*

***Мінская вобл.,***
***г.Беразіно.***
***Чарапаха Раман Іосіфавіч"***

Як нам паведамілі ў Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь, у загадзе за № 192 "Аб атэстацыі педагагічных работнікаў сістэмы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь" няма пункта 3.7. Ён з'яўляецца пунктам Палажэння "Аб атэстацыі педагагічных работнікаў сістэмы адукацыі (акрамя ВНУ) Рэспублікі Беларусь", зацверджанага загадам міністра адукацыі і навукі за № 456 ад 7.12.95 г. У гэтым пункце, у прыватнасці, гаворыцца, што кіраўнікі самадзейных калектываў, якія атрымалі званне ўзорнага ці народнага, вызваляюцца ад абавязковай здачы кваліфікацыйных экзаменаў.

Паколькі Вы, Раман Іосіфавіч, прыйшлі ў ансамбль "Лявоніха" 6 гадоў таму, гэта значыць пасля таго, як калектыў атрымаў званне "народны", дык на Вас гэты пункт не распаўсюджваецца. Чарговую катэгорыю Вы можаце атрымаць толькі пры ўмове здачы кваліфікацыйных экзаменаў. У той жа час раённы аддзел культуры можа разгледзець персанальна Ваша пытанне, але толькі ў тым выпадку, калі калектыў у час Вашага кіраўніцтва ін займее перамогі і прызавыя месцы ў конкурсах, фестывалях, аглядах.

У музычнай школе, дзе Вы працуеце, таксама можаце разлічваць на атрыманне чарговай катэгорыі толькі ў тым выпадку, калі Вашы вучні, гэтак жа, як і самадзейны калектыў, удала выступяць у адпаведных конкурсах, фестывалях, аглядах.

Дарэчы, ансамбль "Лявоніха" не фальклорны, а вакальна-этнаграфічны, і званне "народны" атрымаў не ў 1969, а ў 1970 годзе.

*Ліст у рэдакцыю*

# ХТО ЗОЙМЕЦЦА НАШЫМ ЛЁСАМ?

*Сутнасць нашай праблемы ў тым, што мы, дзесяць чалавек — сябры Саюза мастакоў Беларусі (многія з творчым стажам больш за 30 гадоў), напярэдадні 60-годдзя Саюза мастакоў Беларусі засталіся выкінутымі на вуліцу ў літаральным сэнсе гэтых слоў. Ужо тры гады будынак, дзе знаходзяцца нашы майстэрні (уласнасць Саюза мастакоў Беларусі), у Мінску па вуліцы Дзімітрава, 3, адрэзаны ад сеткі ацяплення і пазбаўлены самых элементарных санітарных нормаў (адсутнічаюць прыбіральні, вада).*

*Такім чынам, мы, вядомыя ў краіне прафесійныя мастакі, не маем умоў не толькі творча працаваць, але страцілі і адзіную ў нашай прафесіі магчымасць зарабляць на сціплы кавалакхлеба,каб выжыць. Тое,што мы стварылі на працягу творчай дзейнасці, цяпер знаходзіцца ў прамерзлых, вільготных памяшканнях майстэрняў і, як вынік, — незваротна гіне.*

*У будынку па вуліцы Дзімітрава, 3, з часу заснавання Саюза мастакоў працавалі многія народныя і заслужаныя мастакі Беларусі, у гэтых майстэрнях прайшло творчае жыццё не аднаго пакалення мастакоў. Гэты дом заслугоўвае асаблівай увагі і адпаведнага стаўлення да сябе і як унікальная гістарычная каштоўнасць.*

*Цяпер майстэрні па Дзімітрава, 3, — у аварыйным стане. Лёсам будынка, як і лёсам мастакоў, якія вымушаны працаваць у аварыйных і антысанітарных умовах, фактычна ніхто не займаецца. Саюз мастакоў у сваім афіцыйным адказе на сёлетнюю публікацыю ў газеце "Звязда" з прычыны названых праблем узяў на сябе адказнасць за вырашэнне гэтых пытанняў, але не выканаў сваіх абяцанняў.*

*Мы не можам мірыцца з такім становішчам, бо, фактычна, пазбаўлены асноўных правоў чалавека — на працу і працоўнае месца. Хто зоймецца нашым лёсам?*

**Сябры Беларускага Саюза мастакоў В.Маркавец, М.Апіёк, М.Назарчук, С.Адашкевіч, А.Шатэрнік, В.Хадаровіч, А.Курачкін, С.Малішэўскі, У.Шнарэвіч, В.Губараў.**

# РАДЗІМА ПАЧЫНАЕЦЦА З ЦАЦКІ

**Здаўна цацка дапамагала дзіцяці пазнаваць навакольны свет, служыла важным сродкам разумовага, эстэтычнага і фізічнага выхавання. Яна заўсёды несла на сабе адбітак сацыяльнага ладу грамадства, узроўню яго культуры. З якімі цацкамі і ў якія гульні сёння гуляюць нашы дзеці? Адказаў можа быць мноства. І не дзіва: як у айчынны, так і ў замежнай цацачнай прадукцыі недахопу няма. Аднак, з другога боку, на Беларусі катастрафічна нестае нацыянальнай цацкі, якая б навучала і выхоўвала, адлюстроўвала мастацкую народную творчасць.**



Алесь Лозка і ягоны цацачны клопат.

Для запаўнення гэтага вядавочнага прагалу ў айчынай цацачнай індустрыі яшчэ ў 1992 годзе ў сістэме Міністэрства адукацыі быў створаны Беларускі навукова-метадычны цэнтр гульні і цацкі. На яго базе пачала працаваць міжведамасная Рэспубліканская камісія па цацках, прызначаная для таго, каб зацвярджаць на сваіх паседжаннях узоры-эталоны цацак перад атрыманнем сертыфіката і масавым выпускам. Аднак "масавы выпуск" заяўленых новых цацак так і застаўся па сённяшні дзень на паперы.

— Наш цэнтр падтрымлівае сувязі з усімі айчыннымі прадпрыемствамі, якія вырабляюць гульні і цацкі, — кажа дырэктар Алесь Лозка. — Але пры ўсім жаданні мы не маем магчымасці скіраваць іх працу на стварэнне высакаякаснай гульнёвай прадукцыі для педагагічных мэтаў. Атрымліваецца, што цэнтр гульні і цацкі, быццам нейкая гандлёвая арганізацыя, павінен не толькі прапаноўваць прадпрыемству свой заказ, але і адразу цалкам аплачваць яго. Вядома, што такіх вялікіх грошай у нас, ды і ў Міністэрстве адукацыі няма. У адрозненне ад вытворчасці падручнікаў і дапаможнікаў, не выдзяляецца для гэтай мэты ніякіх дзяржаўных датацый, хаця цацка для дашкольніка з'яўляецца тым жа букваром. На сённяшні дзень у нас ужо багата назбіралася розных цікавых распрацовак, але большасць з іх пакуль застаецца незапатрабаванымі.

І ўсё ж нельга сказаць, што эксперыментальна-вытворчая лабараторыя цэнтра, у якой сярод іншых працуюць і вядомыя народныя майстры Марына і Андрэй Сярэбранікавы, "працуе ў стол". Маленькім наведнікам сталічнага дзіцячага садка № 376 проста пашчасціла: у яго сценах не толькі "кінуў якар" сам цэнтр, але і з'явіліся невялікія музейныя і гульнёвыя залы. Тут можна ўбачыць найбольш старажытныя і пашыраныя на Беларусі гліняныя цацкі-свістулькі ў выглядзе птушак і жывёл, "жывыя" драўляныя цацкі — з імітацыяй руху ці дзеяння, вырабы з саломкі і ільну, лялькі-персанажы першага беларускамоўнага мультфільма "Ліса, мядзведзь і мужык", зробленыя рэжысёрам-мультыплікатарам Наталляй Лось, калядна-святочную атрыбутыку — "Дзяніцу", "Жураўля"... Усяго і не пералічыць. Аднак самыя ганаровыя экспанаты музея — некалькі макетаў "Батлейкі". Дарэчы, як заўважыў А.Лозка, у свой час камісія па цацках зацвердзіла "Батлейку", былі знойдзены неабходныя сродкі для яе вытворчасці, аднак ніводная фабрыка не ўзялася гэта рабіць, бо не мела адпаведных тэхналогій. І вось зараз майстры цэнтра ўласнаручна ствараюць макеты гэтага знакамітага лялечнага тэатра для навучальных устаноў — і не толькі нашай краіны. Безумоўна, шырока паказаны ў музеі і сучасныя, як айчынныя, так і замежныя цацкі.

Гаворка аб тым, каб стварыць музей цацак як асобную культурную ўстанову, доўжыцца ўжо амаль сем гадоў. Па вядомых гора-прычынах, відаць, ёй і ў бліжэйшы час не наканавана будзе набыць нейкія рэальныя абрысы. А тым часам цесныя музейныя залы ў сценах садка папаўняюцца новымі экспанатамі. Шкада, што, за выключэннем рэдкіх выстаў, яны становяцца здабыткам толькі невялікага кола дзяцей.

**Алесь ФІЛІПОВІЧ**

# ВОСЬ ТАКАЯ КАРЦІНА... або ЗАЙШОЎ ЧАЛАВЕК У БІБЛІЯТЭКУ

**Нашы бібліятэкі... Па дарозе ў адну з іх — а менавіта № 10 імя М.Мінковіча — узгадваў, як шмат гадоў ідэолагі партыі тлумілі ўсім галовы, нібыта Савецкі Саюз — самая чытаючая краіна ў свеце. І ўсе мы наіўна верылі ў тое. А на паверку аказалася, што гэта ўсяго толькі міф, які развеяўся падобна ранішняй смузе. І што ж мы сёння маем? Варта толькі ўважліва прыгледзецца, якую (буду шчырым — даволі кідка афармленую) "чытаніну" прапаноўваюць у апошнія не меней як дзесяць гадоў усялякія камерцыйныя кіёскі, ды і ў кнігарнях і бібліятэках даброцця таго хапае. А варыянт атрымліваецца такі: калі людзі яшчэ і чытаюць нешта, дык асноўным прадуктам духоўнай ежы з'яўляецца эрзацлітаратура: вестэрны, "левай нагой" напісаныя дэтэктывы, да таго ж непісьменна перакладзеныя, кнігі жахаў накшталт твораў Альфрэда Хічкока, эратычныя выданні.**

Зразумела, у бібліятэцы дастаткова добрых, так бы мовіць, нармальных кніг. Сам пераканаўся. І людзі там працуюць адданыя сваёй справе — справе выхавання духоўнасці. Гэта загадчыца бібліятэкі С.Сакалова, яе калегі і падначаленыя — Л.Александровіч, В.Люкевіч, І.Зенчык, А.Біруля, В.Шавялёва. Робяць яны сапраўды шмат. Найперш, адзначу тыя тры асноўныя накірункі, па якіх працуе калектыў. У першую чаргу, гэта павышэнне ролі ўстановы як інфармацыйна-асветніцкага цэнтра, арыентацыя на максімальнае забеспячэнне чытачоў патрэбнай ім літаратурай і сродкамі масавай інфармацыі; па-другое, змяненне тактыкі працы бібліятэкі з улікам змен у сістэме рыначных адносін; і, нарэшце, актывізацыя выхаваўчага ўздзеяння з мэтай фарміравання і развіцця адпаведных патрэб чытачоў. Выкарыстанне розных форм праявдзення масавых мерапрыемстваў дало магчымасць павялічыць аўдыторыю чытачоў, а запрашэнне на сустрэчы пісьменнікаў, журналістаў, мастакоў, акцёраў, спевакоў, а таксама навукоўцаў зрабіла імпрэзы больш цікавымі і павучальнымі.

Асобна варта сказаць пра літаратурна-драматычныя гасцёўні, якія рэгулярна праводзяцца ў бібліятэцы, пра стэнды і выставы на тэму "Край мой, беларускі край", "Выратавальны круг паэзіі", "Увага! Навінкі беларускай літаратуры", "Скарбы сусветнай літаратуры", "Праз народную творчасць — да нацыянальнай годнасці", "Бацькаўшчына — ты багацце маё і любоў", "Вечна жывое мастацтва", "Мове роднай пакланюся", "Вяртанне з нябыту", "У краіне чароўных казак", "Каляндар юбілейных і памятных дат", "Юбіляры года". Напрыканцы кожнага месяца праводзяцца дні інфармацыі з аглядамі новых беларускамоўных паступленняў.



Колькі слоў хацелася б сказаць і пра кантынгент чытачоў. Калі летам чытальная зала практычна пустуе (не лічачы сталых аматараў пачытаць свежыя газеты), дык з пачаткам новага навучальнага года ў школах, каледжах, ліцэях, ВНУ яна практычна цалкам запаўняецца кожны дзень. Моладзі сярод наведнікаў бібліятэкі — болей за палову, а ўсяго тут запісана каля 11 тысяч жыхароў мікраараёна (маю на ўвазе бульвар Шаўчэнкі, вуліцы Веры Харужай, Асіпенкі, Кахоўскую, Чарвякова, Арлоўскую, Гая і інш.). Таму і вырашыў пазнаёміцца з фармулярамі менавіта вучняў бліззлеглых школ №№ 35, 37, 61, 95, 104, 175, 180. Што ж усё-такі чытае тая моладзь, якая мае яшчэ патрэбу ў гэтым? Які працэнт сярод кніг, што яна выбірае, належыць творам беларускіх пісьменнікаў, і менавіта на роднай мове, а не ў перакладзе?

Карціна атрымалася такая. Найперш, зразумела, у фармулярах фігуравалі прозвішчы тых пісьменнікаў, якія вывучаюцца па школьнай праграме: Я.Купала, Я.Колас, М.Багдановіч, М.Танк, П.Панчанка, Я.Брыль, А.Куляшоў, І. Мележ, І.Шамякін, В.Быкаў, У.Караткевіч, А.Макаёнак... Сярод знакамітых рускіх майстроў друкаванага слова — Ф.Дастаеўскі, М.Гогаль, М.Салтыкоў-Шчадрын, А.Чэхаў, І.Бунін, М.Шолахаў, В.Распуцін, А.Салжаніцын... З замежных аўтараў: А. дэ Бальзак, Т.Драйзер, Ч.Дзікенс, Р.Бёрнс, А.Азімаў... І гэта фармуляры выпускнікоў школ, выбарка з добрых паўтара-двух дзесяткаў абанементных картак. Але ж, напэўна, не ўсе школьнікі могуць пахваліцца і такой калекцыяй прачытаных кніг.

І вось што тут не можа не турбаваць. Грамадства дайшло да той мяжы, калі словы пра духоўнасць гучаць ледзь ці не абсурдам. На якое адраджэнне мы можам разлічваць, калі пакаленне, што ідзе нам на змену, не цікавіцца роднай літаратурай, грэбуе яе набыткамі, як і ўсёй беларускай культуры ўвогуле. Хто ў гэтым вінаваты? Бацькі? Школа? Ды, напэўна, усё грамадства. Лягчэй за ўсё махнуць на гэта рукой, маўляў, хай моладзь сама выбірае патрэбнае ёй. Але ж будзем крытычнымі: дастаткова, і нават болей, чым хацелася б, у нас хлопцаў і дзяўчат, якія ўвесь свой вольны час аддаюць прагляду "відзікаў", бязмэтнаму бадзянню па вуліцы альбо "тусоўцы" ў адным з аблюбаваных для гэтага месцаў. У прыватнасці, у памяшканні касы і на прыступках кінатэатра "Кіеў" увесь час "тусуюцца" падлеткі, якія да таго ж бравіруюць сваёй нецвярозасцю...

Шкада гэтую частку моладзі, якая стала на шлях, што вядзе да бездухоўнасці.

І, баюся, адным школам ды бібліятэкам справы не паправіць. Да таго ж, бібліятэкі зараз знаходзяцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Той жа бібліятэцы № 10 давялося перайсці на платныя паслугі, здаваць у арэнду частку памяшканняў, браць пеню за затрымку кніг звыш пазначанага абавязковага карыстання імі. А яшчэ ўводзіць залогавую вартасць на каштоўныя выданні, каб не згубіць фонд...

Ёсць пра што падумаць.

**Валерый ШЫХАНЦОЎ**

# "СТУКАЙЦЕСЯ Ў ДЗВЕРЫ — І ВАМ ДАПАМОГУЦЬ..."

***Гэтыя словы многія прадстаўніцы прыгожага полу чулі з вуснаў цікавага, няўрымслівага чалавека — дырэктара Цэнтра сацыяльнай падтрымкі Беларускага саюза жанчын Таццяны Камароўскай.***
***Невялікі экскурс у гісторыю. Пасля развалу СССР аўтаматычна перастаў дзейнічаць і Камітэт савецкіх жанчын — знакамітая, уплывовая арганізацыя, якая мела свае аддзяленні ва ўсіх рэспубліках. На базе менавіта такога аддзялення і ўтварыўся ў 1991 годзе Беларускі саюз жанчын. За гады, што прайшлі з таго часу, ім зроблена шмат.***

Найперш варта ўспомніць школу бізнесу, якая дзейнічала ў 1992—1993 гадах і ў якой прайшлі навучанне 120 жанчын. Неўзабаве была праведзена міжнародная канферэнцыя "Статус мужчыны і жанчыны ў сям'і і грамадстве". Менавіта па ініцыятыве Саюза ўпершыню 14 кастрычніка 1995 года святкаваўся Дзень маці. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ён з таго часу зацверджаны як нацыянальнае свята. Напрыканцы таго ж года адбылася сустрэча актывістаў БСЖ з жонкамі прадстаўнікоў дыпламатычнага корпуса з мэтай, каб праз іх наладзіць кантакты з рознымі жаночымі арганізацыямі свету. У 1996 годзе нарадзіўся Клуб дзелавых жанчын, у які ўвайшлі кіраўнікі прадпрыемстваў, прадстаўніцы бізнесу, жанчыны-вучоныя, работнікі культуры.

Але галоўнае, на чым хацелася б акцэнтаваць увагу, — гэта стварэнне зноў-такі 14 кастрычніка таго ж года Цэнтра сацыяльнай падтрымкі, чаму садзейнічаў Аляксандр Лукашэнка.

Толькі, перш чым перайсці да дзейнасці Цэнтра, хацеў бы ўзгадаць словы, сказаныя аднойчы Валянцінай Ладыжэнка, начальнікам аддзела сям'і і гендэрных праблем Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь. Яна, у прыватнасці, зазначыла, што з жалем канстатуе: вызначылася тэндэнцыя павелічэння долі жанчын у агульнай колькаці беспрацоўных. Жанчыны не толькі хутчэй губляюць працу, але і цяжэй атрымліваюць яе зноў. Асабліва складаная сітуацыя з працаўладкаваннем жанчын з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй: педагогаў, інжынераў, работнікаў культуры і навукі. Назіраецца феномен "інтэлектуальнага" беспрацоўя. Тыповым беспрацоўным у Мінску з'яўляецца жанчына з вышэйшай альбо сярэдняй адукацыяй ва ўзросце ад 30 да 40 гадоў са стажам 11—15 гадоў, якая шукае працу на працягу 6—12 месяцаў.

Было гэта сказана паўтара гады таму. І можна з упэўненасцю сцвярджаць: на жаль, мала што, па вялікім рахунку, змянілася за час, які мінуў. І гэта нягледзячы на тое, што ў канцы 1996 года была зацверджана Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады, дзе ёсць цэлы раздзел "Сацыяльная палітыка". У гэтым дакуменце ішла таксама гаворка і пра сацыяльную абарону грамадзян. Пацвярджалася, што дзяржава і надалей будзе аказваць неабходную падтрымку сацыяльна неабароненым групам насельніцтва (пенсіянерам, інвалідам, беспрацоўным). Тады ж быў прыняты Нацыянальны план дзеянняў па паляпшэнні становішча жанчын на 1996—2000 гады.

Вось чаму амаль тое ж самае, што і Валянціна Ладыжэнка, гаварыла і Таццяна Камароўская. А менавіта, што на жанчынах больш за ўсё адбіваюцца многія праблемы, народжаныя сацыяльна-эканамічным крызісам. Слушная выснова. Заўважым, што большасць тых, хто заняты некваліфікаванай і нізкааплатнай працай, — таксама жанчыны. Многія з іх ледзьве вытрымліваюць цяжар псіхалагічнай нагрузкі, губляюцца, страчваюць надзеі на лепшае жыццё. Гэтая нестабільнасць не можа не адбіцца на сям'і. А ёсць жа яшчэ і багата маці-адзіночак!

І таму, зыходзячы менавіта з гэтых абставін, актывісты Беларускага саюза жанчын і вырашылі пайсці на стварэнне Цэнтра сацыяльнай падтрымкі, каб неяк дапамагчы іншым жанчынам, скажам, у набыцці пэўнай спецыяльнасці, якую можна было б выкарыстоўваць у хатніх умовах. Спачатку, паводле слоў той жа Таццяны Камароўскай, былі адкрыты курсы народна-прыкладной творчасці па некалькіх накірунках. Потым расшырылі іх. Гэта — ручное і машыннае вышыванне, асобная школа шытва для маладых маці, якія засталіся ў адзіноце, курсы цырульнікаў і масажыстаў. Апошнія вельмі прыдатныя для шматдзетных і адзінокіх жанчын, якія могуць, не выходзячы з дому, бясплатна пастрыгчы сваіх дзяцей, зрабіць ім, калі спатрэбіцца, амаль што прафесійны масаж.

Вядзецца таксама работа па адукацыі жанчын, якія засталіся без працы. Гэты курс пачалі летась, і разлічаны ён на 14 месяцаў. Асобна трэба сказаць пра курс лекцый па арганізацыі здаровага ладу жыцця жанчын, іх псіхалагічнай адаптацыі. Пастаянныя стрэсавыя сітуацыі адмоўна ўздзейнічаюць на псіхічнае здароўе некаторых маці, а гэта не можа не адбіцца на мікраклімаце ў сям'і. У Цэнтры добра разумеюць гэта, таму і пайшлі на стварэнне менавіта такога курса. З той жа мэтай дзейнічаюць кансультацыйныя службы — рэгулярна вядуць прыём псіхолагі і юрысты. У прыватнасці, псіхолаг Алена Швед упэўнена заяўляе: "У нас жанчыны заўсёды знойдуць падтрымку, каб лягчэй прайсці працэс адаптацыі". З ёю згодна і псіхолаг Тамара Аверына. І гэта пацвярджаюць словы адной з наведніц Цэнтра Людмілы Крывуленка: "Мы згубілі працу і прыйшлі сюды. Тут мы зноў знайшліся, паверылі ў сябе".

Вядомыя і такія выпадкі: у Цэнтр, у прыватнасці, да юрыстаў, звяртаюцца і... мужчыны, патрабуючы абароны правоў сваіх жонак. Крыху дзіўна, але — факт...

**Валер ЯТРОВІЧ**

# СУПОЛЬНІЦТВЫ ЗА "КРУГЛЫМ СТАЛОМ"

***У Беларусі дзейнічае Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур, які каардынуе дзейнасць разнастайных культурных таварыстваў нацыянальных супольнасцяў. І вось з 3 па 6 лістапада пад эгідай цэнтра і Міністэрства культуры Беларусі на базе Беларускага інстытута праблем культуры быў праведзены семінар па навучанні формам і метадам клубнай работы для кіраўнікоў нацыянальна-культурных аб'яднанняў. На семінар прыбылі прадстаўнікі Саюза палякаў на Беларусі, Таварыства польскай культуры на Лідчыне, Мінскага таварыства рускай культуры "Русь", Беларускага таварыства немцаў "Відэргебурт", Гродзенскага абласнога культурна-асветнага таварыства ўкраінцаў "Барвінак", Украінскага грамадска-культурнага таварыства Брэсцкай вобласці, Беларускага аб'яднання габрэйскіх арганізацый і супольніцтваў, Брэсцкага габрэйскага супольніцтва "Тарбут", Беларускага аб'яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб".***

У апошні дзень семінара адбылася сустрэча за "круглым сталом, у якой бралі ўдзел начальнік упраўлення устаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі Тадэвуш Стружэцкі, намеснік старшыні Дзяржкамітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцей Іван Яновіч, рэктар Беларускага інстытута праблем культуры Арнольд Міхневіч, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Віктар Мацюшэнка, метадыст гэтага цэнтра Ірына Лемцюгова.

Так, на Беларусі няма праяў нацыянальнага экстрэмізму, але ж праблемы ў нацыянальных супольнасцей існуюць. У асноўным бытавыя. Вось, напрыклад, рускаму хору з Брэста патрэбны кіраўнік, а дакладней стаўка кіраўніка. Бо людзі збіраюцца, жадаюць спяваць, ёсць рэпертуар, а вось акладу для кіраўніка — няма. Падобная праблема ўзнікае і ва ўкраінскага таварыства ў Гродне — як добра было б знайсці аклад для настаўніка ўкраінскай мовы ў школе выхаднога дня. Праўда, праблемамі адукацыі павінна займацца адпаведнае Міністэрства, але ж, на жаль, прадстаўнік яго на "круглы стол" не прыйшоў, хаця і быў запрошаны.

Было ўзнята на семінары і больш істотнае пытанне — адсутнасць даху ў Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур. Калектывам народнай творчасці проста няма дзе збірацца і няма дзе прымаць гасцей. Такая ж праблема стаіць і перад абласнымі філіямі гэтага цэнтра. Мала таго, калі прадстаўнікі з Брэсцкай філіі вырашылі звярнуцца да прадстаўнікоў мясцовай улады, дык ім прапанавалі плаціць арэнду за памяшканне па коштах, што ўстаноўленыя для камерцыйных прадпрыемстваў. Факт не вельмі прыглядны, бо мала таго, што людзі хочуць падтрымліваць сваю культуру, дык з іх за гэтае жаданне і за іх законнае права яшчэ і грошы намагаюцца выцягнуць.

Збянтэжыла прысутных і прызнанне прадстаўніка Таварыства польскай культуры на Лідчыне Аляксандра Колышка, што з-за пэўных правалочак у раёне іх таварыства не можа атрымаць ліцэнзію па выданні кніжак на польскай мове.

Засмуціў таксама расказ Аркадзя Бляхера з Брэсцкага габрэйскага супольніцтва "Тарбут" пра становішча з музеем ахвяр гітлераўскага генацыду. Нядаўна прыязджалі былыя брэстаўчане з ЗША і Ізраіля, гатовыя ўкласці ў стварэнне такога музея свае грошы, была нават падрыхтавана экспазіцыя. Але ж справа так і не зрушылася з месца, і нават экспазіцыя ўжо разабраная. А падобныя ж музеі адкрытыя ў Прыбалтыцы, у Маскве. Дык у чым справа?

Нагадаю слушнае выказванне: па тым, як мы ставімся да сваіх гасцей, суседзяў, сужыхароў, можна меркаваць, як мы ставімся да саміх сябе.

**Серж МІНСКЕВІЧ**

# ЗВЫЧАЙНЫ САТАНІЗМ: ШТО ГЭТА І АДКУЛЬ?

***На нядаўніх Пятых Свята-Еўфрасіннеўскіх педагагічных чытаннях, што адбыліся ў Мінску, з дакладам аб дзейнасці сатанінскіх сектаў на Беларусі выступіў супрацоўнік Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай Акадэміі навук, старшыня Беларускага фонду дапамогі асобам, якія пацярпелі ад псіхічнай агрэсіі, Ігар Котаў. Сваё выступленне ён распачаў жудасным паведамленнем: 2 лістапада ў лясным масіве пад Мінскам, у раёне Калодзішчаў быў знойдзены абязвечаны труп 15-цігадовай мінчанкі Веры Карчаковай. На яе целе было выяўлена 289 колатых ран.***
***Сатанізм... Сёння гэты міфалагічны тэрмін набыў цалкам рэальныя абрысы. Становіцца відавочным, што сатанізм ужо нельга расцэньваць як праяўленне падлеткавага самадурства, акты вандалізму на могілках і ў царкоўных асяродках — як выпадковыя хуліганскія выхадкі п'янаватых шукальнікаў прыгод, а распаўсюджаныя па краіне шматлікія секты — як нефармальныя маладзёжныя гурткі па інтарэсах. Бо нярэдка гэтыя "інтарэсы" аказваюцца замешанымі на людской крыві...***



Паўтара гады таму Вера ўступіла ў адну сталічную сатанінскую секту. Разам з сябрукамі яна апантана захаплялася сатанінскай праграмай "Храм Сета", якая гуляла па Інтэрнеце. Асабліва падабалася падлеткам здзяйсняць віртуальныя ахвярапрынашэнні, пачуццёвая рэакцыя была пры гэтым такая, быццам дзеянне адбывалася наяве. І ўсё ж перад вачамі дзяўчынкі цякла падманная кроў. А наяве ёй рабілася млосна і агідна, калі паплечнікі-сатаністы разрывалі на кавалкі сабаку альбо кошку і потым усе рытуальна выпівалі па глытку іхняй крыві. Нярэдка, успамінаюць яе сяброўкі, Веру ванітавала і яна страчвала прытомнасць. І праз год дзяўчынка, якой ужо было нададзена "ганаровае" званне "ведзьма", вырашыла сысці ад гэтых "адмарожаных" сектантаў, не зважаючы альбо не верачы ў тое, што за здраду — па законах секты — яе могуць пакараць.

Дзень 20 кастрычніка, калі Веры патэлефанаваў хтосьці са знаёмых і прапанаваў сустрэцца, быў сапраўды нейкім д'ябальскім. На арэне Дзяржаўнага цырка выступаў адзін з самых вядомых у пэўным сэнсе слова рок-гуртоў з характэрнай назвай "Кэнібал корпс", аб чым, дарэчы напярэдадні наперабой "трубілі"-рэкламавалі многія айчынныя СМІ. На канцэрт "кэнібалаў" з'ехаліся шматлікія фаны з усёй Беларусі. Гэта было нешта накшталт шабашу.

Вера выйшла з дому і — знікла...

Як адзначае І.Котаў, усё сведчыць пра тое, што забойства мела рытуальны характар. Хутчэй за ўсё, гэта была нейкая сатанінская акцыя: на грудзях ахвяры была выразана пентаграма, а мяркуючы па тым, што ўдары наносіліся ў пэўнай паслядоўнасці і толькі па пярэдняй частцы цела, можна дапусціць, што дзяўчынка ляжала на спіне (яе рукі былі звязаны, а рот заклеены), а каля яе стаялі забойцы і, перадаючы нож з рук у рукі, здзяйснялі сваю "чорную месу". І адпомсціўшы ёй такім чынам, звязалі адзін аднаго крывавай клятвай. Першапачаткова следства адмаўляла рытуальны характар забойства, у чым, дарэчы, упэўнена і маці загінуўшай, — і хутчэй схілялася да таго, што Вера Карчакова трапіла ў рукі маньяка. Хаця некалькі сатаністаў неўзабаве было арыштавана. "Усё-такі многія з нас па-ранейшаму не жадаюць зняць шоры з вачэй, — гаворыць І.Котаў, — і ўсвядоміць, што гульні, у якія гуляюць сатаністы, гэта не "казакі-разбойнікі". Нежаданне адпаведных органаў зразумець гэта толькі падштурхоўвае сектантаў да новых і новых крывавых "подзвігаў".

Дзякуючы пэўнаму збегу акалічнасцей, аб дадзеным жудасным здарэнні стала вядома шырокаму колу людзей. А колькі злачынстваў, якія таксама могуць быць звязаны з дзейнасцю сатанінскіх сектаў, "асядае" ў кабінетах следчых органаў, застаецца толькі гадаць. Канешне, не маючы належнай базы інфармацыі аб сектанцкай дзейнасці, асаблівасцях сатанінскіх рытуалаў, вельмі цяжка бывае дакапацца да ісціны і знайсці сапраўдных злачынцаў. Напрыклад, паводле інфармацыі з крыніц МУС, за вясну—лета гэтага года ў мінскіх смеццевых кантэйнерах, на звалках, у падвалах было знойдзена дзевяць трупаў немаўлят. Шэсць з іх — падчас сатанінскіх святаў, якія прыпадаюць на 1 мая, 22 чэрвеня, 7 ліпеня, 8 красавіка, 2 лютага ("Вальпургіева ноч", "Дзень летняга сонцастаяння", "Купалле", "Грамніцы"...), а таксама на ўсе асноўныя праваслаўныя і каталіцкія святы — у ноч на гэтыя даты сатаністы абавязкова праводзяць шабаш, неад'емнай часткай якога з'яўляецца ахвярапрынашэнне. Канешне, дадзеныя супадзенні не могуць служыць яўным аргументам пры расследаванні гэтых злачынстваў, аднак і ігнараваць іх, пэўна ж, не варта.

Назіраючы тую актыўнасць, якую апошнім часам набывае на Беларусі сатанінскі рух, вярбуючы ў свае легіёны ўсё новых членаў, ствараючы новыя секты, цяжка паверыць, што гэта адбываецца стыхійна. Якія ж сілы стаяць за беларускімі фанатыкамі Цемры? Па версіі І.Котава, што прагучала на чытаннях, беларускія секты як матэрыяльна, так і духоўна падсілкоўваюцца трыма магутнымі замежнымі крыніцамі. Па-першае, гэта цэрквы сатаны ў Маскве, якія маюць моцную фінансавую базу. Па-другое, — у ЗША, прычым з тамтэйшымі арганізацыямі беларускія сектанты сёння кантактуюць напрамую. Раней сувязь адбывалася праз адпаведныя цэнтры ў Польшчы. Нездарма першыя сатанінскія арганізацыі на Беларусі з'явіліся ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях. Поўдзень і поўнач краіны ў меншай ступені падпалі пад сатанінскую навалу. Па-трэцяе, поўнач Еўропы — скандынаўскія краіны. Там найбольш моцна развіты сатанізм на базе неапаганства. Напрыклад, з Нарвегіі на Беларусь пастаўляецца літаратура, аўдыё- і відэакасеты, атрыбутыка, ідзе матэрыяльная дапамога.

Як спыніць гэтую навалу? Як давесці наваяўленым сектантам-падлеткам, што, зрабіўшы свой выбар, яны ўласнаручна ставяць перавернуты сатанінскі крыж у першую чаргу на сваёй душы, псіхіцы, а некаторыя і на сваім жыцці? Самагубствы, якія здзяйсняюцца на гэтай глебе, — ужо не рэдкасць. Вар'яцтва — тым больш. На сённяшні дзень на лячэнні ў псіхіятрычнай бальніцы "Навінкі" знаходзіцца каля ста сатаністаў. Нямала іх "сутаварышаў" адбываюць пакаранні ў турмах і калоніях.

Нельга недаацэньваць тое разбуральнае псіхічнае ўздзеянне, пад якое падпадаюць падлеткі-сатаністы. Неяк прадухіліць вярбоўку новых членаў секты на сённяшні дзень практычна немагчыма: належнай растлумачальнай работы з моладдзю не вядзецца. Але як быць тым, якія на ўласным горкім вопыце адчулі, што апынуліся звычайнымі марыянеткамі ў чыіхсьці руках, і жадаюць вырвацца з гэтага зачараванага кола-пентаграмы? Дзейнасць новастворанага рэспубліканскага фонду дапамогі асобам, якія пацярпелі ад псіхічнай агрэсіі, у першую чаргу скіравана на тое, каб дапамагчы былым сектантам вярнуцца да нармальнага паўнацэннага жыцця. Заснавальнікі фонду — вопытныя ўрачы-псіхіятры і псіхатэрапеўты, дзеячы культуры, свяшчэннаслужыцелі. Залішне казаць, што патрэба ў такой арганізацыі наспела даўно. Але, як гаворыцца, лепш пазней, чым ніколі.

**Алесь ФІЛІПОВІЧ**

# МА-СТЫ-ХІН

## НЕ ПРОСТА САЛОДКІ ДАЛІКАТЭС

***Спраўдзілася мая даўняя мара. Сёння "Мастыхін" выходзіць, нарэшце, у каляровым варыянце. І напярэдадні 60-гадовага юбілею Саюза мастакоў і XVI з'езда майстроў выяўленчага мастацтва Беларусі мы паспрабавалі зрабіць гэты выпуск яркім і разнастайным.***

***Сённяшняе беларускае мастацтва адлюстроўвае даволі складаную карціну. На першы погляд, гэта нібыта рачная дэльта, якая складаецца з мноства рукавоў, астравоў, сонечных пляжаў, цёмных глыбінь, вадаспадаў. Колеры часу, накірункі, стылёвыя канцэпцыі творчасці разнастайныя: ад старога, добрага рэалізму да абстрактнага экспрэсіянізму, ад канцэптуалізму да метафарычнай вобразнасці, ад неарэалізму да перфоменсу. Адбываецца складаная сумесь традыцый, зрабіліся частымі звароты да далёкіх стылёвых прыкладаў. Па-новаму трактуюцца мастацкія катэгорыі прасторы і часу.***

***І ўсё ж скрозь гэтую надзвычайнасць і, мабыць, дзіўнаватасць настойліва і ўладарна прабіваюцца пэўныя рысы нацыянальных традыцый і іншаземных інавацый, адлюстраваных праз сучасны рэгіянальны вопыт.***

***І тут паўстае безліч пытанняў: ісці за традыцыямі альбо спальваць пасля сябе масты, каб праславіцца ў якасці "авангардыстаў"? Быць прафесіяналам-наватарам альбо аматарам-фантазёрам, які шакіруе публіку? Рамеснікам альбо мастаком-творцай? У якасці інфармацыі для роздуму мы прадстаўляем рэпрадукцыі з некаторых твораў апошніх гадоў сталічных і абласных мастакоў розных пакаленняў, у тым ліку і маладых.***

***А чорна-белая фотахроніка распавядзе пра тое, якім было жыццё Саюза ў далёкім і нядаўнім мінулым. Пра сваё разуменне мастацтва і жыцця раскажа Зоя Літвінава, а Уладзімір Уродніч — пра сваё "вяртанне ў дзяцінства", у родную вёску...***

***Яўген Ціхановіч дзеліцца сваімі ўспамінамі пра 30-я гады.***



***Акрамя гэтага, мы прэзентуем вокладку ілюстраванага энцыклапедычнага даведніка "Беларускі Саюз мастакоў. 1938 — 1998", які пабачыць свет праз некалькі дзён. Гэта унікальны вопыт выяўлення і сістэматызацыі кароткіх біяграфічных звестак пра ўсіх членаў БСМ з 1940 па 1996 гады — больш за 1200 артыкулаў! Я, як галоўны рэдактар гэтага выдання, спадзяюся, што яно стане падзеяй не толькі для мастацкай інтэлігенцыі нашай краіны, але і для тых, для каго мастацтва з'яўляецца не проста салодкім далікатэсам у гадзіну адпачынку пасля шэрых будняў, а высокім духоўным крытэрыем усяго нашага быцця.***

**Барыс КРЭПАК,**
**вядучы рубрыкі "Мастыхін"**

### Вернісаж "М"

***У штодзённай мітусні феерверкам колераў і думак раптам выбухае... жывапіс. Жывапіс Зоі Літвінавай. Нібыта з іншага свету, яна іскрыста ўварвалася ў нашыя шэрыя будні, каб вымавіць: Людзі! Абудзіце свае сэрцы, якія заснулі!***
***Палотны, акварэлі, габелены, малюнкі, прадстаўленыя на яе персанальнай выставе ў Нацыянальным мастацкім музеі, — не проста "карцінкі", а нейкія загадкавыя праекцыі свету душы, дзе энергетычныя вобразы ўвасабляюць глыбінныя аўтарскія фантазіі і мары пра ідэальную рэальнасць...***

## ІНТУІЦЫЯ ЗОІ ЛІТВІНАВАЙ

**— Зоя, раскажы пра сябе...**

— Нарадзілася я на Гомельшчыне, у вёсцы Старое Сяло. У мастацтва прыйшла выпадкова, хаця ў кожнай выпадковасці ёсць свая логіка. Аднак да дзесятага класа яшчэ не ведала — кім буду. Бацькі марылі, што я зраблюся ўрачом. Але мяне больш вабіла прырода, яе таямніцы, яе пахі. Карацей, штосьці такое, неакрэсленае блукала ў маёй падсвядомасці, у снах, у фантазіях...

**— Душэўны смутак?**

— Штосьці нашкталт гэтага. Наогул, вясковы чалавек заўсёды шукае асаблівую сувязь з сіламі прыроды, у якой адбываецца нешта важнае, таямнічае, інтрыгуючае. Туга — гэта тамленне душы, якая потым знаходзіць сваю форму. Магчыма, гэтую форму я і знайшла ў жывапісе.

**— Хто твае настаўнікі ў жыцці і мастацтве? Хто ўваходзіць у тваё "блізкае кола"?**



З.Літвінава. "Астральнае каханне". Палатно, алей.

— Перадусім, Сяргей Пятровіч Каткоў. Ён быў маім духоўным бацькам ва ўсіх сэнсах. Шмат далі мне творчыя стасункі ў Мінскай мастацкай вучэльні з Альгердам Малішэўскім і, потым, асабліва з Аляксандрам Кішчанкам. У тэатральна-мастацкім інстытуце я два гады займалася ў Гаўрылы Вашчанкі.

**— А якое тваё "далёкае кола"?**

— Майстры канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Маціс, Дэрэн, Пікасо. З рускіх — Лянтулаў. Яшчэ — іканапіс. Наогул, лічу сябе, перадусім, мастаком-манументалістам.

**— Твае творы ў галіне манументальнага мастацтва шырока вядомыя: роспісы ў кінатэатры "Вільнюс" і ў Палацы культуры чыгуначнікаў у Мінску, у пасёлку Мікашэвічы і санаторыі "Беларусь" у Крыме, велізарны габелен у Магілёве... Але я мяркую, што ўсе гэтыя маштабныя рэчы тым не менш арганічна звязаны з тваім станковым жывапісам і акварэллю.**

— Несумненна!

**— Што значыць для мастака выказаць сябе?**

— Гэта значыць, праз сябе выказаць агульначалавечыя пачуцці, думкі, праблемы. Інтымнае жыццё творчай свядомасці мастака — гэта выказванне жыцця ў ягоным усеагульным значэнні. Калі мастак не сувымярае сябе з вялікімі задачамі, дык...

**— Што ты маеш на ўвазе пад паняццем "задачы"?**

— Гэта значыць, калі жывапісец не выказвае сэнс быцця ў ягоных самых істотных гранях, дык ён бачыць толькі асаблівасці, дробязі, і яго не ўратуе ніякае тэхнічнае штукарства альбо духоўны сурагат разумовых дэкларацый... Звычайна мы бачым фізічны свет, але існуе свет душы, свет духу, і галоўная задача мастака — убачыць менавіта гэты свет, што жыве паводле сваіх законаў.

**— Твой жывапіс, акварэлі, габелен, кераміка, энкаўстыка пабудаваныя шмат у чым на інтуіцыі?**

— У прынцыпе, так. Інтуіцыя — гэта маё кіраўніцтва ў мастацтве. На шчасце, яна мяне пакуль не падводзіла. А хто ёю кіруе? Не ведаю, мабыць, нейкія вышэйшыя сілы.

**— У цябе раннія творы напоўненыя нейкім паганскім духам, жывапіс быў густы, нават цяжкі — пераважалі зялёныя і карычневыя таны... І раптам — дзесьці на мяжы 80 — 90-х гадоў прарвалася незвычайнае, незямное святло, з'явілася новая касмічная прастора, фантастычная дынаміка колераў і форм... Як гэта адбылося? Як ты ішла, скажам, ад карцін "Мая Беларусь", "Мой Мінск", "Стары млын" — да "біблейскіх" цыклаў, да сваіх улюбёных блакітных і чырвоных колераў, да золата?**

— Складанае пытанне. Надышоў час, і я проста стамілася ад цяжару змрочных фарбаў і таго стану душы, які мяне прыгнятаў. Я вырашыла вызваліцца ад гэтага наслання і прарвацца ў іншы свет, больш светлы, вольны, разняволены. Вось чаму ў маім жывапісе з'явіліся блакітныя, чырвоныя фарбы. І — золата. Золата — гэта не проста традыцыя, якая існавала яшчэ ў старажытным іканапісе. Для мяне гэта духоўная субстанцыя, сімвал сонечнай энергіі...



З.Літвінава. "Божая Маці з дзіцем". Палатно, алей.



**— А арэнай гэтага "вызвалення" сталася Аўстрыя?**

— Так, горад Інсбрук, куды я пастаянна прыязджаю вось ужо восьмы год. Там мне добра працуецца, там у мяне шмат замоў, там іншая, блізкая мне, інтэлектуальная аўра. Там мяне разумеюць і цэняць.

**— У горадзе Хэпфгартэне ты распісала капэлу Божай Маці Марыі. Як гэта адбылося?**

— Чалавек я рэлігійны. З юнацтва. Натуральна, цікавілася ўсім, што звязана з хрысціянскай верай. Калі ты заўважыў, на маёй выставе шмат біблейскіх сюжэтаў. Я пісала "Уцёкі ў Егіпет" і "Вяртанне з храма", "Прачыстую" і "Малітву", "Тры анёлы" і "Блуднага сына", "Дабравешчанне", "Аплакванне" і "Прадстаянне". Гэта не проста "карціны на тэму" — гэта мае духоўныя пошукі ісціны... Безумоўна, даўно марыла распісаць храм. У Мінску была такая магчымасць — не далі, палічылі "фармалісткай"...

**— І ўсё ж справядлівасць перамагла, праўда, не на радзіме...**

— Адзін святар з горада Хэпфгартэна неяк убачыў у адным цірольскім прыватным доме маю карціну "Раство". І — запаліўся. Пазнаёміліся, пасябравалі. Праз некаторы час прыйшла замова на роспіс у тэхніцы энкаўстыкі капэлы Марыі ў касцёле, пабудаваным яшчэ ў мінулым стагоддзі. Эскіз быў прыняты без адзінай заўвагі! І праз два месяцы я скончыла сваю працу.

**— Неяк ты казала, што ў кожным чалавеку спіць вялікі, найвышэйшы, унутраны Чалавек, і шлях да яго, гэтага ўнутранага Чалавека — пытанне культуралагічнае...**

— Гэтая думка не новая, яе проста давялі ў нас да спрошчвання, а іншы раз і да абсурду. Так, сапраўды, гэта пытанне пытанняў нашай культуры. Шлях гэты надзвычай цяжкі, але калі мы хочам пабудаваць сапраўды гуманістычнае грамадства, альтэрнатывы гэтаму шляху няма. І на гэтым шляху чалавека да Чалавека з вялікай літары мастацтва адыгрывае, павінна адыгрываць першарадную ролю.

**— Калі пачынаеш палатно, ці думаеш ты пра гледача?**

— Ніколі. Безумоўна, кожны мастак па вялікім рахунку хоча быць зразуметым. Але гэта — па вялікім рахунку. Калі ж ён будзе працаваць толькі ў разліку на таго альбо іншага гледача, — гэта канец творчасці.

**— Што значыць для цябе поспех, слава, прызнанне?**

— У жыцці гэтыя эфемерныя катэгорыі мяне не хвалявалі. Дзеля ўласна мастацтва я шмат ад чаго адмовілася, у тым ліку і ад уяўнай пагоні за славай. Хаця, шчыра кажучы, у Еўропе я спазнала, што такое поспех. Адчула гэта і ў Аўстрыі, і на біенале скандынаўскіх краін, і ў Італіі, дзе бачылі мае выставы. Прыемна, калі да мяне прыходзяць людзі і просяць напісаць іхнія партрэты. Розныя людзі...

**— І ты пішаш іх "падобнымі" да саміх сябе?**

— Я ім кажу, што пакідаю за сабою права трактаваць іхнія вобразы так, як я адчуваю і як разумею. Ніколі сябе не гвалтую, каб дагадзіць праслаўтаму падабенству...

**— Напэўна, там стаўленне да мастацтва некалькі іншае, чым у нас?**

— Раскажу пра адзін выпадак, які ўсхваляваў мяне да глыбіні душы. Неяк у Інсбруку прыходзіць да мяне ў майстэрню адзін юнак, студэнт. Кажа, што вельмі любіць мой жывапіс і ўжо два гады не ездзіць нікуды падчас вакацый, не падарожнічае, а збірае грошы, каб набыць маю работу! І вось, нарэшце, сабраў пэўную суму... Ды такому чалавеку не шкада падарыць карціну!

**— Акрамя выяўленчага мастацтва, чым ты яшчэ захапляешся?**

— У музыцы — Моцарт. У літаратуры — Пушкін, Ахматава. У кінематографе — Феліні і Бергман. Люблю сабак. Машыны... Напэўна, я — старамодны чалавек. Сучасны авангард мне чужы — з прычыны ягонай агрэсіўнасці і пустаты, дзе ўсё круціцца на аснове некалькіх фармальных прыёмаў, незалежна ад таго, у якой краіне гэта адбываецца.

**— А як ты ставішся да беларускага мастацтва?**

— Добра стаўлюся. Хаця казаць пра беларускую нацыянальную школу жывапісу, як гэта робяць некаторыя дамарослыя мастацтвазнаўцы, на мой погляд, некалькі заўчасна. Усе мы, старэйшае і маё пакаленне, выхаваныя на рускай школе — і не трэба гэта хаваць. Так, у нас дзесяткі два цудоўных мастакоў, якія могуць даць фору любому маэстра з Захаду. Але школа, як завершаны арганізм сфармуецца пазней. Сябе я лічу беларускай мастачкай, бо нарадзілася і вырасла на сваёй зямлі. І ўсе мае адчуванні, суперажыванні, думкі — адтуль, з яе каранёў...

**— У прынцыпе, у якой краіне ты хацела б жыць?**

— Напэўна, у Італіі. Там надзвычайная душэўная лёгкасць і цеплыня. Але гэта — a priori. Сёння "назусім" я б ужо нікуды не паехала. Нават у Аўстрыі праз два-тры месяцы пачынаю жудасна сумаваць па Беларусі... І тады я збіраю валізкі...



З.Літвінава. "Цвіценне". Палатно, алей.

# БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ: ПЕРАЕМНАСЦЬ ЦІ

Мастыхін


Г.Данелія. "Дзень, што адыходзіць". Пал., ал.


Д.Алейнік. "Апошні снег". Пал., ал.


А.Марачкін. "Сцяна". Пал., ал.


У.Савіч. "Легенда старога замка". Зм. тэхн.


Л.Шчамялёў. "Бярэзіна. 1812 год". Пал., ал.


Г.Гаркуноў. "Напярэдадні". Габелен.


П.Семчанка. Вобразна-каліграфічная кампазіцыя "Паланез".


М.Якавенка. Надмагілле В.Тураву. Мадэль. Бронза.


Г.Паплаўскі. "Зацішша". Акварэль.


Л.Гумілеўскі. "Чорная быль". Дрэва.


М.Савіцкі. "Мастак і мадэль". Пал., ал.


У.Тоўсцік. "Стары горад. Мастак і мадэль". Пал., ал.


Г.Шутаў. "Настальгія па леце". Акварэль.

**Фрагменты фотахронікі мастацкага жыцця**


III Усесаюзны з'езд мастакоў. На першым плане — дэлегацыя Беларусі. 1968 г.


У майстэрні А.Марачкіна: У.Басалыга, У.Караткевіч, А.Марачкін.


Злева направа: А.Глебаў, А.Малішэўскі, А.Бембель, Г.Вашчанка. 1965 г.

# СПАЛЬВАННЕ МАСТОЎ?



М.Несцярук. "Галя маладая". Габелен.



С.Асапрылка. Без назвы. Пал., ал.



Д.Волкава. Макет дэкарацый да спектакля "Рамэа і Джульета" паводле п'есы У.Шэкспіра.



І.Грыгарышына. "Спрадвечнае". Парцэляна.



В.Шоба. "Дым восеньскіх вогнішчаў". Зм. тэхн.



С.Малішэўскі. "Жыхары горада". Пал., ал.



Д.Раманюк. "Планета расліны "Чалавек" № 1". Плакат.



І.Голубеў. "Архангел Міхаіл перамагае дракона". Бронза.

## ВІНШУЕМ!

З юбілеем —

*Зою ЛІТВІНАВУ*, манументаліста, жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі;

*Дзіяну ВЫМАРКАВУ*, майстра габелена.

З 75-годдзем —

*Мікалая КРУКОЎСКАГА* — эстэтыка і мовазнаўцу, педагога, прафесара, доктара філасофскіх навук, члена-карэспандэнта Міжнароднай Акадэміі навук "Еўразія";

З 60-годдзем —

*Паўла СЕМЧАНКУ* — графіка, педагога, прафесара БелАМ.



Д.Зянкевіч. "Сустрэча". Пал., ал.

## АФІЦЫЙНА

**Напярэдадні XVI з'езда мастакоў Беларусі адбыўся справаздачна-перавыбарны сход абласных арганізацый БСМ, творчых секцый і аб'яднанняў.**

Старшынямі абласных арганізацый абраныя:
Брэсцкай — Уладзіслаў КУФКО;
Віцебскай — Уладзімір ІВАНОЎ;
Гомельскай — Анатоль ОТЧЫК;
Гродзенскай — Сяргей АСАПРЫЛКА;
Магілёўскай — Юрый НЕСЦЯРУК;
Бабруйскай гарадской арганізацыі — Валерый КАЛТЫГІН.

Старшынямі творчых секцый абраныя:
жывапісу — Мікалай АПІЁК;
графікі — Ілля НЕМАГАЙ;
скульптуры — Аляксандр ФІНСКІ;
дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва — Аляксандр ЗІМЕНКА;
мастацкага тэкстылю — Наталля СУХАВЕРХАВА;
манументальнага жывапісу — Валерый ЧАЙКА;
мастакоў тэатра, кіно і тэлебачання — Уладзімір ЧАРНЫШОЎ;
мастацкага праектавання — Уладзімір КАНДРАЦЕЎ;
плаката — Уладзімір ВАСЮК;
крытыкі і мастацтвазнаўства — Барыс КРЭПАК.

Старшынямі творчых аб'яднанняў абраныя:
"Верасень" — Уладзімір ЛУКАШЫК;
"Пагоня" — Мікола КУПАВА;
"Няміга" — Мікалай БУШЧЫК.




Вокладка энцыклапедычнага даведніка "Беларускі Саюз мастакоў. 1938 — 1998".

### Фрагменты фотахронікі мастацкага жыцця



М.Станюта (злева) і А.Тычына. У перапынку III з'езда мастакоў Беларусі.



У майстэрні А.Анікейчыка. Злева направа: А.Анікейчык, Г.Мурамцаў, П.Свентахоўскі, В.Шаранговіч, Л.Шчамялёў. 1986 г.



Удзельнік І з'езда мастакоў Беларусі Г.Бржазоўскі з дачкой Людмілай. 1997 г.



На адкрыцці мемарыяльнага знака на месцы дома, дзе нарадзіўся В.Бялыніцкі-Біруля. У цэнтры — У.Лятун, А.Бархаткоў, У.Пракапцоў. 1997 г.

**"З кніг беларускіх"**

***Як паведамлялася ўжо ў "Культуры" за 3—9 кастрычніка, вядучы бібліятэкар аддзела беларускай літаратуры Нацыянальнай бібліятэкі Людміла Сільнова выказала жаданне весці ў газеце рубрыку "З кніг беларускіх". Тады ж і адбылася прэм'ера рубрыкі — друкаваннем артыкула "Экслібрыс Вацлава Ластоўскага".***
***Сёння прапануем увазе чытача чарговую публікацыю.***

# АЎТОГРАФ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

*Я. ДРАЗДОВІЧ.*

**НЯБЕСНЫЯ БЕГІ.**

*Працу маю гэту, — афярнапрацуючым дзеля навук — на добрае карыстаньне, а бацьком маім. — Нарцызу, што пры жыцьці сваім любіў гутаркі а планэтах і матцы Юзэфе, ад каторай ніраз даводзілася чуць: „Вучыся і пазнай Нябесныя бегі", — на сьветлую памятку ім, — заафяроўваю.*

*АЎТАР.*

*ЗЬМЕСТ:*

*I. Пазаатмосфэрная бронь зямной паверхні.*
*II. Кружнік Сатурна.*

Дар аўтара для Карпарацыі „Скарынія". Я. Др.

*ВІЛЬНЯ* 13.11. *1931 г.*

*Выданьне аўтара з уласнаручнымі яго лінарытамі.*

Кніжныя фонды Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі дагэтуль з'яўляюцца крыніцай цікавых, рэдкіх знаходак. Адна з апошніх — унікальная навукова-папулярная брашура Язэпа Драздовіча "Нябесныя бегі" (Вільня, 1931) з дароўным аўтографам мастака Беларускай студэнцкай карпарацыі "Скарынія".

Язэп Драздовіч — незвычайная, рэдкая асоба ў гісторыі беларускай культуры; у пэўным сэнсе — сімвалічная, ключавая яе фігура. Выдатны мастак, этнограф, археолаг, пісьменнік і педагог, ён, як вядома, меў у сваёй душы найвялікшай моцы жаданне — спазнаць далёкі Сусвет, жыццё на іншых планетах, механіку і гармонію космасу. "Ёсць нейкая незразумелая для нас таямнічая сіла, якая кіруе гармоніяй руху нябесных цел", — пісаў ён. Гэтае жаданне, смелыя памкненні яскрава адлюстраваліся ў такіх серыях яго карцін, як "Жыццё на Марсе" (1931), "Жыццё на Сатурне" (1932), "Космас" (1940) і іншыя. У 1931 годзе мастак выдае кніжку "Нябесныя бегі", як ён пазначае, "з уласнаручнымі лінарытамі", у якой імкнецца вызначыць асаблівасці вярчэння Зямлі, паказаць дасканаласць суадносін абручоў Сатурна... Наогул, усю зіму з 1931 на 1932 год Драздовіч праводзіць за вывучэннем зорак і напісаннем працы "Гісторыя планет Сонечнай сістэмы". А рукапіс дасылае ў Мінск, у Акадэмію навук.

Як вядома з біяграфіі мастака, на пачатку 1930-х гг. Язэп Драздовіч часова быў беспрацоўным. Пакінуўшы працу настаўніка малявання, ён прыехаў у Вільню — беларускія Афіны, — дзе спрабаваў уладкавацца на працу, знайсці сталы заробак. Па рыпучай лесвіцы па вечарах уздымаўся ён на свой паддашак у прадмесці Вільні Ліпаўцы — "упадабанае дзеля ўзвышанага жыцця памяшканне". Вось як піша пра сваю "абсерваторыю" сам Драздовіч: "Тут я ўстрайваю сабе небаводную працоўню, у якой прынімаюся да выкрасаў аб стане нябесным і раблю аблічэнні, пішу, рысую, малюю небазнаўчага зместу абразы".

Даследчык жыцця і творчасці Язэпа Драздовіча Арсень Ліс у кнізе "Вечны вандроўнік" гаворыць аб станоўчым уплыве гэтай сітуацыі — процьма вольнага часу! — на творчасць унікальнага мастака. Цяпер Драздовіч часта наведваў Віленскую публічную бібліятэку, "спяшаўся... пад скляпенні, што ўражвалі ў юнацтве партрэтамі старажытных вучоных, нябеснай сферай, знакамі планет".

Цікава, што, як чытаем у аўтарскім прысвячэнні да брашуры "Нябесныя бегі", менавіта маці натхніла Драздовіча на вывучэнне законаў неба і Сусвету: "...матцы Юзэфе, ад каторай не раз даводзілася чуць: "Вучыся і спазнай Нябесныя бегі"..." У беларускіх вёсках дагэтуль можна пачуць, як старыя жанчыны звяртаюцца ў сваіх малітвах: "Царыца нябесная!..."

Мяркуючы па ўсім, у асобе мастака Язэпа Драздовіча мы маем прыклад творчай індывідуальнасці рэдкага, сапраўднага адраджэнскага тыпу — homo universalus (чалавека універсальнага), ідэал, які прапаноўвае нам кожны раз новая хваля культурнага руху пад сімвалічнай старажытнай назвай Адраджэнне. (І гэта не толькі хрэстаматыйная эпоха Адраджэння і Рэнесансу ў XIV—XVI стст). Прыклады герояў-адраджэнцаў — астраном Галілей, вандроўнік Магелан, мастак Леанарда да Вінчы (дарэчы Драздовіча называлі "беларускім Леанарда да Вінчы"), пісьменнік Сервантэс, выдавец і першадрукар Скарына... А таксама Пічэта, Ластоўскі (якому Багдановіч, па словах сучаснага нам паэта, "не ў Вільню — пісаў у Афіны... нясмелы ліст") і многія іншыя і ў іншыя, гэтаксама вызначальныя для асобнага чалавечага грамадства часы. За словам "Адраджэнне" — іншая ў адносінах да пануючай культурная традыцыя, заснаваная на веры ў пазнавальныя магчымасці чалавека, роўнасці полаў і павазе да жанчыны... Можна сказаць так: у Адраджэння — жаночы твар.

Сам тэкст аўтографа Язэпа Драздовіча выкананы адным з яго адметных почыркаў — са знакамітымі "завітушкамі" (як знакам бясконцасці, бясконцага развіцця) ля асобных літар і чытаецца так: "Дар аўтара для Карпарацыі "Скарынія". Я. Драздовіч (роспіс). <Вільня> 13.11. <1931>". На вокладцы і на тытульным аркушы стаіць пунсовай фарбай штамп гэтай карпарацыі.

Некалькі слоў пра "Скарынію". Мяркуючы па штампе, назва пісалася лацінскімі літарамі — "Scorinia", арганізацыя была заснавана ў 1931 г. групай былых сяброў Беларускага студэнцкага саюза, які складалі студэнты-беларусы Віленскага універсітэта ў 1920—39 гг. (друкаваны орган БСС — часопіс "Студэнцкая думка", а дэвіз — "Айчына і Навука"). У 1934 г., з-за адметных палітычных поглядаў яе сяброў, "Скарынія" была скасавана рэктарам універсітэта, а ў пачатку 1934 г. — зноў адноўлена ("адроджана"), цяпер ужо пад назвай "Беларускае студэнцкае таварыства імя Ф.Скарыны". Але гэта ўжо — зусім іншая, асобная гісторыя...

**Людміла СІЛЬНОВА**




# "КНИГАТА СЕ ПОСВЕЩАВА..."

У мінулым нумары "Культуры" паведамлялася пра тое, як ушаноўваецца памяць, адзначаецца 50-годдзе з дня нараджэння нашай выдатнай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц на яе роднай Піншчыне.

Далёкія Пінск ды Мінск ад сталіцы Балгарыі Сафіі. Але і там ведаюць і шануюць імя беларускай паэтэсы. Красамоўным сведчаннем гэтага з'яўляецца той факт, што якраз напярэдадні юбілею ў сафійскім выдавецтве "Панарама" выйшла ў свет кніга выбранай лірыкі Я.Янішчыц у перакладзе на балгарскую мову. Кніга называецца: "Твоято присъствие", гэта значыць "Твая прысутнасць". На зваротную старонку шмуцтытула вынесены словы: "Книгата се посвещава на 50-годишнината от рождения то на Явгения Янишчиц". Перакладаць, здаецца, не трэба.

Выданне задумана і ажыццёўлена па ініцыятыве даўніх сяброў Беларусі і беларускай літаратуры Найдана Вылчава і Стэфана Паптонева (першы выступае як перакладчык, другі — як рэдактар зборніка). Над перакладам працавалі таксама вядомыя балгарскія паэты Зоя Васільева, Хрыста Папоў і Янко Дзімаў.

Сваім роздумам над вершамі Я.Янішчыц дзеліцца ў пасляслоўі да кнігі знаўца беларускай літаратуры крытык Румяна Яўцімава. "Творы беларускай паэтэсы, — піша яна, — гэта адкрытыя лісты, у якіх выказваецца споведзь перад родным краем, боль за адчужанасць паміж людзьмі і трывога за будучыню". Вельмі дакладныя вызначэнні. Здалёку, на адлегласці, як кажуць, відней.

Трэба дадаць яшчэ, што кніга "Твая прысутнасць" любоўна і з густам выканана і ў сэнсе афармлення, графічнага дызайну. Тут і партрэт аўтаркі, і калаж на супервокладцы, і віньеткі на бачынах.

Што датычыцца неабходных для выдання сродкаў, то яны — як зазначана на тытуле, — знойдзены дзякуючы беларускаму пасольству ў Балгарыі і дзвюм балгарскім фірмам.

**А.В.**

**P.S.** 19 лістапада ў Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылася прэзентацыя кнігі "Твая прысутнасць". Пра жыццёвы і творчы шлях Яўгеніі Янішчыц, пра шырокае прызнанне яе лірычнага таленту як у Беларусі, так і за яе межамі гаварылі пісьменнікі, сябры таварыства "Беларусь—Балгарыя", студэнты-філолагі. Прагучалі вершы паэтэсы ў перакладзе на балгарскую мову.

**З пошты "К"**

# ПЕРШАЕ ТАКОГА КШТАЛТУ!

Шмат гадоў чакаў цяпер ужо былы дырэктар Лідскай музвучэльні Мар'ян Баяровіч выхаду гэтай кнігі. І вось такая жаданая мара збылася. У маіх руках нотны зборнік "Беларускія народныя песні і танцы" ў апрацоўцы для баяна, акардэона і двухраднага храматычнага гармоніка. Кніга пабачыла свет у выдавецтве "Беларускі кнігазбор", якое выдае 200-томную "Залатую бібліятэку Беларусі".

Пра змест зборніка гаворыць яго назва. Якое багацце народных песень і танцаў сабраў і падрыхтаваў для выдання Мар'ян Баяровіч! Гэта папулярныя сярод нашага люду "На вуліцы мокра", "Кума, мая кумачка", "Бульба", "Мікіта" і, вядома ж, "Лявоніха". А таксама менш вядомыя, але не менш чуллівыя і мудрыя "На гарэ дубочак", "Замуж пайсці — трэба знаць", "Прыляцелі гусі", "Калыханка", "Салавейку маленькі", "Сваток", "А ў садзе рэчанька"... Радасць і гора, каханне і здрада, прыстойнасць і подласць, міласць да любай Айчыны ды туга па ёй у чужым краі шчымліва кранаюць душу чытача. Многія народныя мелодыі ў зборніку паўтараюцца, але яны выкананы рознымі аўтарамі і адрозніваюцца ступенню цяжкасці іх выканання. Напрыклад, вядомая песня "Чаму ж мне не пець" даецца ў апрацоўцы сямі выканаўцаў. Словам, выбірайце, музыкі, калі ласка, творы па гусце і радуйце імі ўдзячнага слухача. Дарэчы, складальнік незвычайнай кнігі выступіў і ў ролі аўтара: яму належыць "Фантазія на беларускую тэму".

Як адзначае ў прадмове да згаданага зборніка мастацтвазнаўца Элеанора Тумас, у нас багата апрацовак твораў для голасу ці хору. А вось апрацовак беларускіх народных песень для народных інструментаў няшмат. Тым больш каштоўным з'яўляецца падрыхтаванае М.Баяровічам выданне. Да месца падкрэсліць — першае такога кшталту ў Беларусі і ў краінах СНД.

Так, выхаду зборніка могуць парадавацца многія. І адзначыць поспех руплівуца беларускай культуры Мар'яна Баяровіча. А што Мар'ян Андрэевіч менавіта такі чалавек, сведчыць і наступны факт. У маладыя гады, яшчэ выкладчыкам Гродзенскай музычна-педагагічнай вучэльні, ён у час канікулаў выпраўляўся ў вандроўкі па розных раёнах Гродзеншчыны, дабіраўся ў самыя глухія вёскі і запісваў там народныя песні, слухаў іх у выкананні людзей розных пакаленняў. А ў вёсцы, як вядома, вечная праца, бясконцая занятасць. Асабліва летам. Ды юны Манюсь разам са сваімі сябрамі па вандроўках Лявонам Баразной, будучым мастаком, і Сяргеем Талочкам, збіральнікам беларускіх прыказак ды прымавак, знаходзіў у сялян разуменне.

На аснове тых экспедыцый Мар'ян Баяровіч падрыхтаваў яшчэ адно унікальнае выданне — кнігу "170 беларускіх народных песень Гродзеншчыны". Колькі гадоў таму я знаёміўся з вынікам амаль паўвекавой працы Мар'яна Андрэевіча. Па-першае, мяне ўразіла геаграфія фальклорных запісаў. Замасцяны, Куляшы, Матылі, вёскі з далёкага і глухога закутка (на памежжы з Літвой) былога Васілішкаўскага, зараз Шчучынскага раёна, а яшчэ з былога Радунскага, цяпер Воранаўскага раёна. І там малады руплівец запісваў у старажылаў у аўтэнтычным выглядзе словы і мелодыі беларускіх народных песень, як і на Ашмяншчыне, Смаргоншчыне, Астравеччыне і ў іншых месцах. І нават у некаторых вёсках колішняга Эйшышкаўскага раёна Літвы.

Няма патрэбы гаварыць ці пісаць многа слоў пра культурна-гістарычнае, ды і навуковае значэнне падрыхтаванага выдання. Агульнавядома, што не толькі носьбіты фальклору, а і вёскі, у якіх яны жылі, выміраюць і знікаюць з карты вобласці. Таму так важна захаваць для нашых нашчадкаў фальклорна-песенную спадчыну народа. Але як выдаць у наш нялепшы час кнігу з народнымі песнямі Гродзеншчыны? Некалі падтрымку складальніку унікальнага зборніка абяцалі ў Мінкультуры, Саюзе кампазітараў, Фондзе культуры... Але ўсё ўпіраецца ў нястачу грошай. Выдавецтва "Беларускі кнігазбор" (вялікі дзякуй яго кіраўнікам за згаданую кнігу) фінансавых магчымасцей для выдання яшчэ адной не мае.

Як жа знайсці выйсце? Магчыма, выданне можна ажыццявіць, калі разам аб'яднаць хай і невялікія сродкі раёнаў, на тэрыторыі якіх запісаны песні, прадпрыемстваў і ўстаноў розных форм уласнасці, ахвяраванні асобных грамадзянаў. Гэтая прапанова знайшла станоўчы водгук у грамадскасці. На жаль, на згаданую прапазіцыю пакуль не адрэагавалі ўладныя структуры памянёных раёнаў. Добра было б, каб каардынатарам у ажыццяўленні такой ідэі выступіла ўпраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама.

І апошняе. Кніга "170 беларускіх народных песень Гродзеншчыны" патрэбная не толькі музычным школам і вучэльням, установам культуры. Такі зборнік стаў бы цудоўным падарункам як для дэлегацый з іншых мясцін, што наведваюцца ў нашыя раёны, так і для асобных грамадзянаў. Прыгадаю такі факт. Некалькі гадоў таму варшаўскі літаратар Земавіт Фядэцкі, які перад вайной жыў на Лідчыне, выдаў у польскай сталіцы кнігу з тэкстамі і нотамі беларускіх народных песень, запісаных ім у вёсцы Феліскава. Выданне гэта завезлі ў Мінск і Гродна, і яно хутка знікла з паліц кнігарняў. Я тады купіў пару кніг З.Фядэцкага, як кажуць, пра запас. І ведаеце, каго ўзрадаваў імі як падарункамі? Беластоцкага журналіста Міхася Хмялеўскага, які завітаў да мяне мінулым летам, і сціплую сялянку-пенсіянерку з-пад Скрыбаўцаў, якая безвынікова з'ездзіла па кнігу з песнямі землякоў у Гродна.

Дык жа як не радавацца, што ў наш тлумны час добрая кніга і песня маюць цану!

**Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ**
*г.Ліда*

# ЁСЦЬ У МАКСІМА-КНІЖНІКА ПРАДАЎЖАЛЬНІКІ Ў ВАЎКАВЫСКУ

Улетку 1911 года Максім Багдановіч наведаў Беларусь. Тыя ўражанні ад гісторыі і культуры свайго народа спарадзілі ў Максіма-Кніжніка ў Яраслаўлі дзівосна-зіхатлівы цыкл "Старая Беларусь", які ў 1912 годзе знайшоў свой працяг у друку ў газеце "Наша ніва". Там быў і верш "Кніга", у якім паэт на вякі ўславіў горад Ваўкавыск.

*І бачу я ў канцы няхітрую прыпіску,*
*Што "кнігу гэтую раб божы, дзяк Гапон,*
*Дзеля душы спісаў у месце Ваўкавыску*
*У рок сем тысяч сто васьмы з пачатку дзён".*

А ўвосень 1998 года ў мае рукі трапіў найкаштоўны набытак "Ваўкавышчына: з гісторыі краю і лёсу людзей". З задавальненнем чытаў і перачытваў гэтую інтрыгуючую краязнаўчую кнігу, у якой на высокім прафесійным узроўні паказана багатая і каларытная гісторыя, культура і эканоміка горада Ваўкавыска і яго раёна, асабліва пазнавальныя старонкі па ахове помнікаў гісторыі і культуры. У кнізе 268 старонак, 45 матэрыялаў і пазнавальныя шматлікія фотадакументы, якія прадставілі вучоныя, даследчыкі і краязнаўцы з Гродна, Мінска, Ваўкавыска, Гожува Велькапольскага.

Навуковым рэдактарам і складальнікам кнігі "Ваўкавышчына: з гісторыі краю і лёсу людзей" з'явіўся беражлівы і руплівы вучоны з Гродна, прафесар І.Крэнь.

Выдаўцамі гэтай цікавай і адметнай гістарычнай і культурна-асветніцкай кнігі сталі Ваўкавыскі гарадскі і раённы выканаўчыя камітэты, Інстытут гісторыі НАН Беларусі, кафедра гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы, Гродзенскі абласны і Ваўкавыскі раённы Саветы Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Адказны за выпуск зборніка — Д.Аляшкевіч, якому мы выказваем сваю вялікую ўдзячнасць, бо папрацаваў ён шчыра і грунтоўна. Кніга складзена з вялікім розумам і ўменнем, бо, як бачна, акрамя агромністай працы над шматлікімі матэрыяламі і фотадакументамі, ёсць тут і дадатак А.Чарныш да хронікі Ваўкавыска, на вокладцы змешчаны з аднаго боку Шведская гара, з другога — карта раёна.

Так што, як бачна, ёсць знаходлівыя і руплівыя прадаўжальнікі "Кнігі" Максіма Багдановіча, якія стварылі дзівосны сучасны летапіс роднай і дарагой сэрцу кожнага беларуса Ваўкавышчыны.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства**
*Баранавічы*

# РАДЗІВІЛ І БЕТХОВЕН

***Род Радзівілаў бярэ пачатак у XV стагоддзі і неўзабаве робіцца адным з самых значных у Вялікім княстве Літоўскім. Гэты род даў айчыне не толькі палітыкаў, военачальнікаў, прадстаўнікоў вышэйшага духавенства, але і цэлую плеяду дзеячаў культуры — асветнікаў, паэтаў, мастакоў, музыкантаў. Адным з прадстаўнікоў гэтага вялікага роду, якія найбольш яскрава выявілі сябе ў мастацкай творчасці, быў прамы нашчадак Мікалая Радзівіла Чорнага князь Антоній Генрык Радзівіл (1775—1833), ардынат Нясвіжскі і Алыцкі, заснавальнік берлінскай лініі Радзівілаў, кампазітар, мецэнат.***

Князь Антоній нарадзіўся ў Вільні, атрымаў грунтоўную агульную і мастацкую адукацыю. Сямейная традыцыя далучэння да музыкі выявілася ў тым, што ўжо ў маладыя гады ён быў вядомы як добры віяланчэліст. У 1792 годзе Антоній Генрык Радзівіл едзе на вучобу ў Германію. Знаёмства з культурным жыццём Еўропы зрабіла дабратворны ўплыў на развіццё яго таленту кампазітара. Пасля паражэння паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, па волі бацькоў і па сваім жаданні, Антоній Радзівіл вырашыў жыць не ў межах "расійскіх" тэрыторый былой Рэчы Паспалітай, а ў яе "прускай" частцы, таму ў 1794 годзе, адгукнуўшыся на запрашэнне прускага караля, князь прыязджае ў Берлін, дзе праз два гады бярэ шлюб са стрыечнай сястрой Фрыдрыха Вільгельма II Фрэдэрыкай Луізай Брандэнбургскай. Маладыя пасяліліся ў палацы, які ім падарыў бацька Антонія.

Салон Радзівілаў на Вільгельмштрасэ зрабіўся адным з цэнтраў артыстычнага жыцця Берліна. Як адзначалі сучаснікі князя, "кожныя два тыдні, а часам і часцей, там выконвалі квартэты Гайдна, Моцарта, Бетховена ды іншых майстроў. Сам князь у гэтых канцэртах іграў віяланчэльную партыю". Асабістае знаёмства і сяброўства звязвалі князя са шмат якімі славутымі асобамі музычнага свету. Антонію Радзівілу прысвячалі свае творы Бетховен ("Шатландскія песні" ор.108, Імянінная уверцюра ор. 115), Шапэн (Трыо g-moll ор. 8), Мендэльсон (фартэпіянны квартэт ор. 1), Шыманоўская ("Серэнада для віяланчэлі ў суправаджэнні фартэпіяна").

Антоній Радзівіл пакінуў пасля сябе каля трыццаці камерных твораў. Творчасць кампазітара прыйшлася на першую трэць XIX стагоддзя — час закату класіцызму, зараджэння сентыменталізму і, нарэшце, перамогі рамантызму, які стаўся вядучай мастацкай плынню. Усе гэтыя напрамкі выяўлены ў камернай вакальнай творчасці князя А.Радзівіла. Асаблівай увагі заслугоўваюць чатыры рамансы на вершы невядомых нямецкіх паэтаў. У выданні пазначаны як аўтар толькі А. Радзівіл. Ці не быў аўтарам вершаў сам кампазітар? Практыка таго часу сведчыць: калі аўтар музыкі і слоў быў адзін, у выданнях пазначаўся толькі аўтар музыкі. Несумненна, мы маем справу з вакальным цыклам для тэнара ў суправаджэнні гітары і віяланчэлі — і гэта ў тыя часы, калі цыклічнасць яшчэ не сталася вядучай у вакальных жанрах.

Самы буйны твор Антонія Радзівіла — опера "Фауст" на тэкст Іагана Вольфганга Гётэ. У 1808 годзе з друку выйшла першая частка "Фауста" Гётэ. Радзівіл адразу пачаў пісаць, дакладней, будаваць з тэксту "Фауста" лібрэта будучай оперы. Геніяльны паэт сам згадзіўся на супрацоўніцтва з кампазітарам у якасці лібрэтыста. Пра сваю сустрэчу з князем у Веймары ў 1814 годзе ён піша ў "Мемуарах" так: "Візіт князя Радзівіла абудзіў тугу, якую цяжка суцешыць; яго геніяльная парывістая кампазіцыя да "Фауста" дазволіла нам зарадзіць далёкую яшчэ надзею на пастаноўку гэтага незвычайнага твора ў тэатры". Надзея спраўдзілася. Пачынаючы з берлінскай прэм'еры 1835 года, опера многія дзесяцігоддзі з вялікім поспехам ішла ў тэатрах Германіі, Польшчы, Чэхіі, Англіі...

З прычыны свайго знатнага паходжання і становішча ў грамадстве князь абавязаны быў займацца палітыкай, а не музыкай. Гэта, магчыма, адзіная прычына, па якой ён пакінуў пасля сябе невялікую колькасць твораў. Тым не менш, у мастацтве князь Антоній Генрык Радзівіл дасягнуў такіх вяршынь, што ўжо пры жыцці стаўся даволі вядомым кампазітарам. Сведчанні пра гэта пакінулі І.В.Гётэ, К.Цэльтэр і К.Лёвэ, Ф.Шапэн і Р.Шуман, крыху пазней Ф.Ліст, У.Адоеўскі і многія іншыя прыхільнікі таленту аўтара першага опернага "Фауста". Дадзеная публікацыя спрабуе прасачыць стасункі паміж Радзівілам і Бетховенам.



*Антоній Радзівіл.*

... У траўні 1796 года Бетховен прыехаў у Берлін. Фердынанд Рыс — нямецкі піяніст, кампазітар, вучань і сябра Бетховена, выдаў у 1838 годзе ўспаміны пра свайго настаўніка, дзе пра той прыезд піша наступнае: "Некалькі разоў ён іграў пры двары (у караля Фрыдрыха Вільгельма II), дзе выканаў сярод іншых твораў дзве санаты для фартэпіяна і віяланчэлі (ор. 5), якія сачыніў для сябе і Дзюпора (першага каралеўскага віяланчэліста). Пры развітанні ён атрымаў залатую шкатулку, поўную луідораў". Паводле Рыса, Бетховен "у Берліне меў шматразовыя сустрэчы з Гумелем, пра якога гаварыў: ... яго ігра на фартэпіяна элегантная і прыемная, аднак яе нельга параўноўваць з ігрой прынца Луі Фердынанда. Апошняму ён зрабіў, як меркаваў, вялікі камплімент, калі сказаў, што прынц іграе зусім не па-каралеўску або княжацку, а як таленавіты піяніст".

Двойчы, 21-га і 28-га чэрвеня 1796 года, Бетховен выступаў з канцэртамі ў каралеўскай Берлінскай пеўчай акадэміі. У дзённіку Ф.Х.Фаша занатавана: "Спадар ван Бетховен імправізаваў на тэму фугі псалма 119 № 16 (Псалом быў перад гэтым спеты)". Бетховен: "... у Берліне я даў канцэрт. Я думаў здзейсніць штосьці сапраўднае і спадзяваўся на вялікі поспех, аднак... пасля найвышэйшага напружання майго натхнення не пачулася ані драбнейшых прыкметаў поспеху: загадка затым, аднак жа, вырашалася: берлінская публіка ўся вельмі тонка выхаваная і, каб заверыць мяне ў сваёй удзячнасці, махала мне вільготнымі ад замілавання насовачкамі. Для такога грубага энтузіяста, як я, гэта было зусім залішне. Я бачыў, што меў аўдыторыю рамантычную, але ніяк не мастацкую. А гэта не тое, чаго мы, мастакі, прагнем, мы патрабуем апладысментаў".

Варта адзначыць, што Бетховен выступаў менавіта там, дзе, няма сумневу, не мог не знаходзіцца ў тыя дні князь Радзівіл. Яшчэ за некалькі месяцаў да таго ён прыбыў у Берлін, каб ажаніцца з Фрэдэрыкай Луізай. Шлюб адбыўся 17 красавіка 1796 года. Таму, бясспрэчна, князь Антоній, як прыдворная асоба, прысутнічаў на канцэртах Бетховена, што адбыліся ў каралеўскім палацы, а як натура мастацкая не мог абмінуць увагаю ягоных выступленняў у Пеўчай акадэміі.

Абодва яны — і Бетховен, і Радзівіл, былі яшчэ вельмі маладымі людзьмі: Бетховену трошкі болей за 25 гадоў, князю толькі споўніўся 21 год. Абодва лічылі галоўнай справай жыцця служэнне музам, і кожны перакананы шмат здзейсніў на гэтым шляху. Абодва былі поўныя энергіі і аптымізму. Вядомая ж дэмакратычнасць адоранай асобы Антонія Радзівіла (што занатавана шматлікімі яго сучаснікамі) дае падставу меркаваць, што менавіта ў траўні—чэрвені 1796 года і адбылося асабістае знаёмства паміж ім і музычным геніем, талент якога не мог абмінуць увагі князя.

Але наступная сустрэча здзейснілася, хутчэй за ўсё, толькі праз 18 гадоў. Паміж 1796 і 1814 гадамі адбыліся падзеі (час напалеонаўскіх войнаў), што не толькі ўзварушылі еўрапейскі кантынент, але і істотна паўплывалі на лёс Радзівіла і Бетховена. Тое, што Напалеона не падтрымаў князь Антоній — цалкам зразумела. Адносіны ж Бетховена да Напалеона мяняліся неаднойчы.


*Людвіг ван Бетховен каля 1800 года. Гравюра І. Нэйдля паводле партрэта Г. Штэйнхаўзера.*

У 1802 годзе ён прыступіў да стварэння V сімфоніі. Травень 1804 года. З успамінаў Фердынанда Рыса: "Гэтая сімфонія была задумана ў сувязі з Банапартам, калі той быў яшчэ першым консулам. Бетховен цаніў яго выключна высока і параўноўваў з найвялікшымі рымскімі консуламі. Як я, так і іншыя яго блізкія сябры часта бачылі гэтую сімфонію перапісанай у партытуры ў яго на стале; наверсе, на тытульным аркушы, стаяла слова "Буонапартэ", а ўнізе "Луіджы ван Бетховен" і ні слова болей...

Я быў першы, хто прынёс яму паведамленне, што Банапарт аб'явіў сябе імператарам. Бетховен прыйшоў у лютасць і ўсклікнуў: "Гэты — таксама звычайны чалавек! Зараз ён будзе таптаць нагамі ўсе чалавечыя правы, кіравацца толькі сваім славалюбствам, ён будзе ставіць сябе вышэй за ўсіх іншых і зробіцца тыранам!" Бетховен падышоў да стала, схапіў тытульны аркуш, разарваў яго зверху данізу і кінуў на падлогу".

Дададзім, што ў 1824 г. Бетховен зменіць сваё стаўленне. "Напалеон? Раней я не цярпеў яго. Цяпер жа думаю зусім інакай", — скажа ён свайму вучню Карлу Чэрні.

Але на пачатку стагоддзя ні Радзівіл (па сваіх прычынах), ні Бетховен (па сваіх) не падтрымалі Напалеона. Наступствам гэтых дзеянняў для Радзівіла стала тое, што пасля смерці траюраднага брата Дамініка Гераніма, IX ардыната нясвіжскага (які падтрымаў Напалеона), згодна з указам цара Аляксандра I, нясвіжская ардынацыя ў 1813 годзе адышла ў спадчыну Антонію Генрыку Радзівілу — да таго часу ён быў валадаром толькі Алыцкай ардынацыі. Гэта дасумавала князю вялікія прыбыткі, ён стаў адным з багацейшых магнатаў Еўропы. Што ж да Бетховена, дык насуперак уласным перакананням, насуперак маральным перавагам, якіх ён трымаўся ўсё жыццё, ён, неспадзявана для сябе, атрымаў прыязнасць манархаў, што перамаглі Напалеона.

У канцы верасня 1814 года Вена чакала знаных гасцей, каб вырашыць далейшы лёс Еўропы — пачынаўся вядомы ў гісторыі Венскі кангрэс. У світе прускага караля туды прыязджае і Антоній Радзівіл. Дарэчы, яшчэ і дзеля таго, каб уладкаваць "польскае пытанне". Палітыкам князь быў незайздросным. Усё, чаго ён дамогся — заснавання марыянетачнага, у межах прускай дзяржавы, Вялікага княства Познаньскага, куды і быў прызначаны каралём сваім намеснікам.

Апрача палітычных кансультацый, паміж паседжаннямі кангрэсменам (каралям Вюртэмберга, Даніі, Прусіі, імператарам Расіі і Аўстрыі) была прапанавана культурная праграма. Распачалася яна 26 верасня выкананнем оперы Людвіга ван Бетховена "Фідэліо"! Так-так, оперу — найярчэйшую з жанру "оперы выратавання" — паказвалі тым, каго неўзабаве назвалі жандарамі Еўропы! З нагоды перамогі над Напалеонам Бетховен напісаў яшчэ і кантату "Слаўныя імгненні", якая таксама ўвайшла ў праграму адпачынку манархаў. 4 кастрычніка, у дзень імянінаў аўстрыйскага імператара Франца, зноў быў выкананы "Фідэліо".

З успамінаў Антона Шындлера — нямецкага дырыжора і музычнага крытыка, прыяцеля Бетховена: "Разумоўскі прадставіў яго (Бетховена) манархам, што знаходзіліся ў Вене, якія ў самых пахвальных выразах выказалі яму сваю павагу. Асабліва імкнулася ўзнагародзіць яго кампліментамі руская імператрыца. Прадстаўленне адбылося ў пакоях эрцгерцага Рудольфа, дзе Бетховена віншавалі і іншыя высокія персоны (сярод якіх, не памылімся, быў Антоній Радзівіл. — **В.С.**) ... Вялікі майстар... сказаў з вядомай гордасцю, што ён дазволіў высокапастаўленым асобам дагаджаць яму, і пры гэтым вельмі важнічаў".

У канцы лістапада, па прызнанні кампазітара, "пасля шматлікіх інтрыгаў, ён дамогся даць акадэмію (аўтарскі канцэрт. — **В.С.**) і атрымаць ад прускага караля ўваходны ганарар у 10 дукатаў". Былі выкананы VII сімфонія, кантата "Слаўныя імгненні" і "Бітва пры Віторыі". Прысутнічалі абедзве імператрыцы, прускі кароль і шматлікія высокапастаўленыя асобы. Усе месцы былі занятыя.

У снежні 1814 года і ў лютым 1815-га ў Вене адбылася яшчэ адна прэм'ера. Там была выканана аднаактовая ідылія "Вялікі дзень у замку, альбо Сцэны трубадураў 1148 года". Музыка ідыліі належала розным кампазітарам — у тым ліку Сальеры. Адну з галоўных партый (Бландэля дэ Нэль), якая ўключала два вакальныя нумары, выканаў Антоній Радзівіл, які меў прыемны тэнар, ён жа напісаў музыку да абодвух нумароў. Менавіта падчас працы Венскага кангрэса Людвіг ван Бетховен прысвячае князю Антонію Генрыку Радзівілу "Імянінную уверцюру" (ор. 115).

... Прайшло колькі гадоў. Стан здароўя Бетховена рэзка пагоршыўся. З ліста Карла Фрыдрыха Цэльтэра (у той час рэктара Берлінскай пеўчай акадэміі) да Іагана Вольфганга Гётэ: "Пазаўчора ў Мёдлінгу я хацеў наведаць Бетховена. Ён жа збіраўся ў Вену, і, такім чынам, мы сустрэліся на вуліцы, выйшлі з карэтаў і абняліся ад усяго сэрца. Няшчасны такі ж добры, як і глухі, і я ледзьве мог устрымацца ад слёз". Пагаршаюцца і фінансавыя справы кампазітара. У 1822 годзе ён нават пазычыў у брата Іагана значную суму. Відаць, таму ў студзені 1823 года ён вырашыў не выдаваць свой новы твор — "Урачыстую месу" (D-dur), а прапанаваць знаным еўрапейскім дварам копіі партытуры коштам 50 дукатаў за паасобнік. Запрашэнні падпісацца на месу былі разасланы тады ж, у студзені...

Першы адказ прыйшоў з Берліна: з запытам, ці не жадае Бетховен замест 50 дукатаў атрымаць ордэн? Бетховен пажадаў дукаты. Ужо да сярэдзіны траўня па экземпляры месы заказалі каралі Саксонскі, Французскі, Дацкі, імператар Расійскі, княгіня Галіцына, таварыства св.Цэцыліі з Франкфурта. З Берліна ж паступілі адразу некалькі заказаў. Князь Антоній Радзівіл арганізаваў падпіску сярод блізкіх. У выніку Бетховен атрымаў заказы ад караля Прускага, вялікіх герцагаў Гесэнскага і Дармштацкага. Заказала асобнік і жонка князя Радзівіла Фрэдэрыка Луіза. Фінансавае становішча Бетховена, такім чынам, было папраўлена.

**Віктар СКАРАБАГАТАЎ**


*Берлінская пеўчая акадэмія ў 1840 годзе.*

Палемічныя нататкі

# Парадоксы беларускай моўнай свядомасці

*Мова мая беларуская —*
*Мой зямны рай...*
*Мова мая беларуская —*
*Пекла маё зямное*
***Алег Лойка***

## ПЕРАБОЛЬШВАННЕ АД БОЛЮ

Метафары паэта і прафесара-філолага Алега Лойкі, што прыведзены ў эпіграфе, уражваюць. За імі — моўная апантанасць беларускага нацыянальнага сумлення, для якога ў мове канцэнтруюцца сусвет і жыццё з усімі іх полюсамі — і пеклам, і раем. Чаму пекла? Чаму рай? Ці ў стане мова змяшчаць у сабе столькі? Ці на самой справе галоўнае для адраджэння — мова? Але Паэт вось гэтак адчуў, і адчуванне мацней за рацыю. На магчымыя пытанні Паэт зноў адкажа вершам ці лірычным эсэ, так што пытанні застануцца. Аднак нельга не бачыць, што ў плане надіндывідуальным гэта крызісныя метафары: за імі стаяць боль і роспач беларускага моўнага адраджэння.

## ЦІ МАГЧЫМА НЕ ВАЛОДАЦЬ РОДНАЙ МОВАЙ?

Паводле перапісу 1989 г., насуперак, здавалася б, катастрафічнай русіфікаванасці, 80 працэнтаў з амаль што 8 мільёнаў беларусаў у БССР (а гэта 6,5 мільёнаў) назвалі сваёй роднай мовай беларускую. Інакш кажучы, мноства людзей не гавораць на той мове, якую лічаць роднай, але працягваюць называць яе роднай, бо імкнуцца не губляць сваю моўную адметнасць, і гэта насуперак сваёй уласнай моўнай практыцы. Гэта горкая супярэчнасць — называць мову роднай, але не карыстацца ёю, вельмі часта не валодаць ёю. Парадокс траўміруе беларускую свядомасць. Вось адкуль пачуццё віны: Прости нас, родная мова!, як аднойчы напісала "Знамя юности".

## ЗАМЫКАЮЧЫЯ Ў "ПАРАДЗЕ СУВЕРЭНІТЭТАЎ"

Такія ж парадаксальныя адносіны жыхароў краіны да яе незалежнасці і да аб'яднання з Расіяй: беларусы і хочуць і не хочуць незалежнасці. У адным з сацыялагічных апытванняў (1996 г.) 1535 грамадзян Беларусі так адказвалі на зададзеныя запар два пытанні:

| | Так | Не | Не адказалі |
|---|---|---|---|
| 1. Ці хацелі б вы, каб Беларусь была незалежнай дзяржавай? | 64,6 % | 34,4 % | 1,0% |
| 2. Ці хацелі б вы, каб Беларусь і Расія аб'ядналіся ў адну дзяржаву? | 62,5 % | 32,0 % | 5,5 % |

Статыстыка сведчыць аб пашыранай схільнасці беларусаў да асіміляцыі — і ў СССР — СНД, і на эміграцыі (у параўнанні, у прыватнасці, з украінцамі). Беларусы больш адкрытыя да касмапалітычнай практыкі — прычым не столькі на словах, колькі на справе. Як адзначалі заходнія эксперты, у 60—70-я гады ў Беларусі было больш агульнаадукацыйных школ з выкладаннем часткі прадметаў на замежных мовах, чым у іншых саюзных рэспубліках (у разліку на душу насельніцтва). У вачах і бацькоў, і ўладаў гэта былі прэстыжныя школы, іх падтрымлівалі, у іх імкнуліся. Між тым, я ведаю, якую бурную дыскусію ў газетах і на тэлебачанні ў Славеніі выклікалі планы стварэння англійскіх школ: нацыянальная інтэлігенцыя абуралася, чаму гэта лепшая моладзь будзе ў англійскіх школах, а не ў славенскіх. У Беларусі ж аналагічныя пытанні не ўзнікалі.

Думаю, не выпадкова, што не ўкраінскі аўтар (напрыклад, з русіфікаванага Харкава) і не рускі (пры ўсёй "всемирной отзывчивости русской души"), але беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч у інтэрв'ю "Комсомольской правде" назвала сябе касмапалітам і тлумачыла гэта тым, што пасля Чарнобыля адчуваеш сваю роднасць не тое што з любым чалавекам, але з птушкай у лесе...

Часопіс "Советская этнография" ў 1988 годзе ў аглядзе лістоў чытачоў падаў некаторыя колькасныя паказчыкі, у тым ліку колькасць лістоў па моўных пытаннях, атрыманых з розных саюзных рэспублік. З Украіны лістоў пра мову было 24, з Беларусі — 1 (пры тым, што колькасць насельніцтва Украіны перавышае насельніцтва Беларусі толькі ў 5 разоў).

Невыпадкова, што Закон аб мовах у БССР, у параўнанні з законамі аб мовах у іншых саюзных рэспубліках, быў прыняты пазней за ўсіх (у студзені 1990 г., праз тры месяцы пасля ўкраінскага закону).

## СЛОВАЦЭНТРЫЧНАСЦЬ СУПРАЦЬ МОЎНАЙ АБЫЯКАВАСЦІ

Гэтыя факты гавораць аб пэўнай абыякавасці беларусаў да моўных пытанняў, што тлумачыцца сялянскім недаверам да слоў. Менавіта сялянскім, бо ўвага да слова выхоўваецца ў грамадстве універсітэтамі. Разумеючы гэтую ролю вышэйшай адукацыі, царызм якраз універсітэты ды ліцэі на Беларусі і вынішчаў.

Адзін польскі аўтар пісаў, што палякі ўспрымаюць беларусаў як людзей не проста не гаваркіх, стрыманых, нешматслоўных, а занадта маўклівых. Канешне, раўнадушнасць да слова ідзе не на карысць паэзіі, філалагічнай культуры і нацыянальнай свядомасці грамадства. Але ёсць тут і станоўчы бок, карысны для жыцця: абыякавасць да любой ідэалогіі. Беларусы, дзякуй Богу, слаба вераць любым словам. Задоўга да Маякоўскага яны адчувалі: *Мало ли что в книжке можно намолоть*. Думаю, што ў Беларусі за ўсе савецкія гады ніколі не было фанатыкаў ідэі камунізму. Вядома, былі людзі, якія няблага ўладкаваліся пры саветах, але гэта зусім не ідэйныя барацьбіты за камунізм. Для беларусаў не характэрныя людзі, апантаныя наогул хоць якой ідэяй.

Адно з наступстваў: масавая беларуская свядомасць, у адрозненне ад рускай, не з'яўляецца літаратурацэнтрычнай. У рускіх ёсць прымаўка, і не адна, у якой адбілася ў чымсьці іх мастацкая, словацэнтрычная ментальнасць: *Ради красного словца не пожалеет и отца*. У беларусаў, наадварот, ёсць прымаўка, сэнс якой — у адштурхоўванні ад усялякай нецвярозасці, у тым ліку ад нецвярозасці *красного словца* ці багемы: *Шынкар любіць п'яніцу, аднак сваю дачку за яго не аддасць*.

Іншая справа, аднак, элітарная свядомасць. Насуперак нацыянальна-моўнай апатыі "сярэднестатыстычных" беларусаў, насуперак іх моўнаму канфармізму, беларуская эліта звышсловацэнтрычная (і гэта супярэчнасць ёсць адным агульным парадоксам стаўлення народа да мовы). Парадокс тут яшчэ ў тым, што словацэнтрычнасць беларускай эліты развілася пад уплывам рускай культуры, бо, як вядома, *Поэт в России больше чем поэт*. У той жа час беларуская элітарная свядомасць імкнецца што ёсць сілы адштурхнуцца ад асімілятараў і асабліва ад рускай мовы.

## У ПОШУКАХ НОВЫХ АБРАЗОЎ

Элітарная нацыянальная свядомасць перабольшвае ролю мовы ў грамадстве, яе сэнсавыя і этнаахоўныя магчымасці. Мову атаясамліваюць з найважнейшымі феноменамі быцця і духу — з народам, з яго жыццём, душой, лёсам, гісторыяй, культурай, свабодай, шчасцем, будучыняй... (падкрэсліваю: не **звязваюць**, а **атаясамліваюць**). Неўжыванне мовы збліжаюць з фізічнай смерцю яе носьбітаў. Вось характэрны загаловак аднаго з артыкулаў Сяргея Навумчыка: "Нашчадкі не даруюць усім нам, калі на пачатку новага тысячагоддзя будзе знішчаны беларускі народ". Па-першае, з пункта гледжання логікі, якія ж там "нашчадкі", калі народ "знішчаны"? Па-другое, у артыкуле гаворыцца ўсё ж не пра генацыд, а пра дзяржаўную палітыку у дачыненні да беларускай мовы. Лёгка ўявіць, як чытач, мяркуючы па загалоўку, настроіўся быў на матэрыял аб новых чарнобылях ці немінучай эпідэміі, але, уцяміўшы, што гаворка ідзе пра мову, хмыкне: вечна яны перабольшваюць...

Часам бачна сакралізацыя або фетышызацыя мовы. Цытую Андрэя Каўчука: "Пачуцьцё мовы сёньня — гэта пачуцьцё Бога — пачуцьцё сябе — пачуцьцё сваёй мэты — пачуцьцё сэнсу стагодзьдзя і тысячагодзьдзя" ("Наша ніва", 1998, 10). Параўнайце таксама ў Павала Севярынца: *сьвяты мяккі знак беларускага напісаньня*.

Такой жа вялізнай бачыцца роля беларускай мовы ў асабістых лёсах яе абаронцаў. Зноў цытую Андрэя Каўчука: "Мы — носьбіты мовы, а ўсё астатняе — прыкладаецца, калі чалавек досыць разумны, каб стаць багатым. [...] Маршрут вядомы: трэба спачатку ў дасканаласьці вывучыць мову, каб пасьля таксама вывучыць сябе, а пасьля — сьвет. Бліскуча авалодаць ёю, а пасьля сабою, каб кіраваць сьветам. Тады спраўдзіцца старая беларуская масонская казка пра Івана ўдовінага сына".

## АБАРАНЯЮЧЫ, НЕ ПАЗБАЎЛЯЦЬ НАДЗЕІ

Адна справа — рамантычныя вобразы і перабольшванні ў паэтаў, іншая — у палітыкаў і гісторыкаў. Ад палітыкаў чакаем цвярозасці, аналізу, разумення прыярытэтаў. Таму лічу, мякка кажучы, неасцярожнымі сцвярджэнні пэўных дзеячаў, што без адраджэння мовы немагчымыя ні нацыя, ні суверэнная дзяржава. Сцвярджаць: "выжывем толькі з роднай мовай", ці "без адраджэння мовы няма суверэннай дзяржавы", ці "без беларускай мовы няма Беларусі", — гэта значыць адбіраць у народа перспектывы на будучыню, на незалежнасць.

Памылкова атаясамліваць **толькі** мову з незалежнасцю, з адраджэннем суверэннай дзяржавы. Засяроджанасць нацыянальнага руху на мове ў першую чаргу і пераважна на мове толькі замінае руху, звужае яго да гурткоў і вечарын. Нагадаю, што Таварыства беларускай мовы было створана ў чэрвені 1989 г. не толькі з дазволу ЦК КПБ, але і ледзь не па ягонай ініцыятыве. Створана ў процівагу сапраўднай палітычнай барацьбе за незалежнасць Беларусі — каб адвесці пару і заняць усіх энтузіястаў працай абсалютна бяспечнай для ўладаў, нават карыснай (бо ў перспектыве ТБМ магло б пераўтварыцца ў аналаг прапагандысцкіх арганізацый накшталт "Знание". Да таго ж ва ўмовах БССР — гэты занятак абяцаў быць бясконцым, практычна з неабмежаванай колькасцю кіруючых, а значыць і паслухмяных супрацоўнікаў, — як будаваць камунізм або насіць ваду ў рэшаце.

І яшчэ адзін негатыўны матыў: папракаем бясконца беларусаў у бяспамяцтве. Ці ёсць сэнс культываваць у людзях комплекс віны перад мовай, нарэшце, комплекс непаўнавартасці, комплекс няўдзячнага сына, ці Івана, што не памятае радства?

## МОЛАДА-ЗЕЛЕНА: ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ І АДУКАЦЫЙНАЯ НЕДАРОСЛАСЦЬ

Вядома, гэта следства вузасці, камернасці і рамантызму руху. Зразумела, што "недарослаcць" бачная не ва ўсіх запар тэкстах, але ж бачная.

Вось філолаг, кандыдат навук, у пошуках станоўчых узораў для беларускага адраджэння, звяртаецца да лёсу чэшскай мовы і піша (у ЛіМе), што засілле нямецкай мовы ў Чэхіі было такім моцным, што толькі ў нямногіх і глухіх вёсках старыя людзі яшчэ ўмелі гаварыць па-чэшску. Але ж такога не было: ніколі нямецкая мова не панавала ў чэшскіх сялян... Вось Вінцук Вячорка атаясамлівае арфаграфію і мову і, замест таго, каб вітаць і кансалідаваць усіх, хто звяртаецца да беларускай мовы, сее сварку... Вось Святлана Багданкевіч сцвярджае, што родная мова наследуецца **генетычна** (!): "Толькі мова гэтай зямлі, закладзеная ў генах, здольная сфарміраваць паўнавартасную асобу, сапраўднага грамадзяніна, а таксама дапамагчы раскрыцца ўсім здольнасцям і патэнцыям дзіцяці" (ЛіМ, 1998, 24 ліпеня). І гэта ж не вершы, не паэтычныя перабольшванні: такі ўзровень агульнагуманітарнай дасведчанасці аўтара... А ці дабавяць пашаны руху сцвярджэнні Сяргея Язерскага, што розныя ўнутраныя формы бел. *адукацыя* і рус. *образование* абумоўліваюць розныя "канцэпцыі адукацыі ў беларускім і расейскім менталітэтах": бел. *адукацыя* — "ад лацінскага кораня *duco* — весці за сабою", у той час як рус. *образование* — "з гнязда, дзе ёсць словы вырезать, обрезать (лішніцу, тое, што перавышае запланаваную норму)" (ЛіМ, 1994, 23 верасня).

Рамантычныя аўтары не хочуць глядзець праўдзе ў вочы і таму схільныя прымаць жаданае за сапраўднае. Працытую з эсэ Зміцера Бартосіка: "Як імкліва нас пакідае Расея!.. Для сёньняшніх тынэйджэраў гэта краіна не Высоцкага і Таркоўскага, а хутчэй — краіна без куміраў. Менавіта ад гэтае пустаты расейская мова стала ў нас моваю таннае папсы, а беларуская яшчэ не стала моваю рок-н-ролу й высокай моды. А часу застаецца ня так і шмат" ("Наша ніва", 1997, 25 жніўня).

## МОЎНЫ ВЫКЛІК: АД БОЛЮ ДА БОЮ

Нацыянальна ангажаваная эліта не проста гаворыць па-беларуску: яна змагаецца за мову. Барацьба патрабуе мужнасці і ахвярнасці, але яна напаўняе жыццё сэнсам і творчасцю. Алесь Гібок-Гібкоўскі, параўноўваючы беларускасць з *крыжам і крыламі* (эсэ "Крыж і крылы", ЛіМ, 1998, 3 ліпеня), піша: "Стан перманентай барацьбы застаецца на сённяшні дзень нашым самым звыклым станам. Па шчырасці, іншага мы сабе і не ўяўляем".

Беларускае літаратурнае неафіцыйнае маўленне ў горадзе — гэта элітарнае маўленне. Пераход на мову за межамі сваёй групы ёсць у пэўнай ступені выклікам і дэманстрацыяй сваёй асобнасці (асабліва ў людзей да 30—40 гадоў). Гэты пераход звычайна патрабуе намаганняў, рашучасці. Лірычны герой Зм.Бартосіка прызнаецца, што *на мове* ён наважваецца гаварыць толькі ў асаблівым настроі і нават асаблівай вопратцы: "Асабіста я ня стану гаварыць на "бел", знаходзячыся ў "нябелым" настроі, ці нават маючы нейкую хібу ў адзеньні. Каб нішто не дапамагло асацыяваць маю мову зь якім-кольвек убоствам" ("Наша ніва", 1997, 25 жніўня).

Для часткі элітарных тэкстаў характэрна атмасфера дыскрымінаванага адзіноцтва, псіхалогія людзей, няўпэўненых у сабе: "Цяжка пазбыцца адчування жывога экспанату ў заапарку "Беларусь", экзатычнага калекцыйнага жука на шпільцы [Далей аўтар цытуе словы, якімі выпадковы суразмоўца рэагаваў на яго беларускае маўленне:] "Вы так красіва размаўляеце! Па рабоце ілі как?" — вось адна з рэплік, якую носьбітам мовы часта даводзіцца чуць" ("Наша ніва", 1998, 10).

Адваротны бок няўпэўненасці — агрэсіўнасць: *ць нясіце, як меч* (Зміцер Цехановіч). Але апантанасць пасуе толькі што паэтам і вынаходнікам, аднак супраць нацыянальнай абыякавасці і апатыі апантанасць — ненадзейныя лекі. Зноў узгадваюцца словы Сакрата Яновіча: *стомленыя ад сваёй беларускасці*.

## МОЛАДА-ЗЕЛЕНА: СКАНДАЛІСТЫ СУПРАЦЬ ПАМЯРКОЎНЫХ

Псіхалагічная канфрантацыя з рускамоўнай большасцю нярэдка выклікае ў герояў эсэ імкненне да скандалу, бойкі, інакш кажучы, да некаторай фізічнай рэалізацыі свайго моўнага выкліку: "Патрэбен такі стыль, каб белых людзей пазнавалі адразу. Каб не пасьпявалі мы адкрыць рот, а яны ўжо ведалі, якою моваю зь імі будуць мовіць. А зь першымі нашымі словамі пасьпявалі закрыць свае раты. Маючы пэрспектыву атрымаць "дапамогу", якую практыкуе адзін мой знаёмы — дае поўху" (Наша ніва, 1997, 25 жніўня). Словы супраціву гучаць у шмат якіх тэкстах маладой эліты: "...Эх і запалім мы некалі нашага суседа з чатырох вуглоў! А фортку адчынім, каб кісларод паступаў!" ("Наша ніва", 1998, 15). Матыў палення стаў скразным у таленавітай лірычнай антыутопіі Павала Севярынца "Паленьне" (Наша ніва, 1998, 17).

У антыутопіі Севярынца можна бачыць яшчэ адну крыніцу агрэсіўных матываў элітарнай свядомасці: не толькі ад няўпэўненасці і інтравертнасці руху, не толькі як хваравітая рэакцыя на абыякавасць і моўны канфармізм большасці, але яшчэ і як ваяўнічае адштурхоўванне ад прыцягальнай рускай літаратуры, — адваротны бок таго рускага па паходжанні словацэнтрызму, аб якім ішла гаворка вышэй.

## ПРЫЯРЫТЭТЫ ЖЫЦЦЯ

Калі Васіль Быкаў гаворыць: "Нацыя без мовы — гэта не нацыя" ("Наша ніва", 1998, 14), дык ён ідзе, на мой погляд, за рамантыкамі. Аднак нацыі без сваёй "адной" і "асобнай" мовы існуюць (толькі ў Еўропе — аўстрыйская, ірландская, швейцарская, бельгійская баснійская, чарнагорская ды іншыя). Нацыі не існуюць без незалежнасці — без хаця б мінімальнай аўтаноміі, без сваёй арганізацыі свайго жыцця (як курды). Беларусь мае суверэнітэт. Які б ён ні быў "папяровы", ён ёсць і, мяркуючы па ўсім, захаваецца — з прычын эканамічных і палітычных выгад быць асобнай дзяржавай; з прычын яшчэ больш важкіх жыццёвых выгад: вось ужо сем гадоў, як хлопцы з Беларусі не трапляюць у войска за межамі сваёй краіны, не гінуць у чарговых для Імперыі гарачых кропках ці яе пагранатрадах. І менавіта з незалежнасцю звязана будучыня нацыянальна-культурнай самастойнасці народа Беларусі, у тым ліку і беларускай мовы.

**Ніна МЯЧКОЎСКАЯ,**
**доктар філалагічных навук,**
**прафесар кафедры**
**тэарэтычнага і славянскага**
**мовазнаўства БДУ.**

ЯН ТАПАРОЎСКІ

# СПРАВА АБ ЗАБОЙСТВЕ ІЕГУДЫ ПЭНА

*Версія*

*(Працяг. Пачатак у "Культуры" ад 10.10.98 г., № 39.)*

**КАМЕНТАРЫЙ СПЕЦЫЯЛІСТА**

**Леанід Словін** — маёр міліцыі ў адстаўцы, стаж службы ў міліцыі — больш за 26 гадоў, былы начальнік крымінальнага вышуку г.Кастрамы, былы намеснік начальніка аддзялення крымінальнага вышуку Маскоўскага Упраўлення транспартнай міліцыі:

*"Абвінаваўчае заключэнне — гэта самы важны дакумент, які следства перадае ў суд. Гэты дакумент важны і для абвінавачанага. У гэтым дакуменце — усе доказы, якія сабраны супраць абвінавачанага.*

*З абвінаваўчым заключэннем звязаны пэўныя правілы: калі дакумент своечасова — да суда — не перададзены абвінавачанаму, то не можа быць і суда.*

*З дакумента можна зрабіць вывад аб версіі абвінавачання: вырашаўся лёс маёмасці састарэлага і адзінокага мастака, які не даваў спаць яго сваякам — сям'і Файнштэйн. Гэта не новая праблема, існуе яна ў Расіі і сёння: калі нейкая сям'я ў сваяцтве з адзінокім і пажылым чалавекам, дык зусім лагічна, што яны абмяркоўваюць або вырашаюць пытанне, як быць у гэтым выпадку з яго маёмасцю, з кватэрай, каб яна не дасталася дзяржаве. Але з дакумента відаць, што гэта праблема хвалявала не толькі сям'ю Файнштэйн, але самога Пэна. Калі паглядзець уважліва на абвінаваўчае заключэнне, то ёсць падставы лічыць, што Пэн быў згодны з тым, каб яго маёмасць была перададзена Файнштэйнам (напрыклад, праз жаніцьбу з Нехай), але менавіта Неха не згаджалася выйсці за яго замуж. Значыць, размова ішла аб атрыманні ў спадчыну маёмасці Пэна пасля яго смерці. (Тут да месца пытанне: навошта ж Несі трэба было забіваць Пэна, калі "завалодаць" яго маёмасцю і кватэрай можна было адным росчыркам пяра — аформіць паперу ў загсе?! —* ***Я.Т.****) Размовы паміж сваякамі пра тое, каму дастанецца маёмасць, — абсалютна легальныя і законныя. Але далей версія следчых робіць нейкі дзіўны паварот. Калі раней размова ішла аб атрыманні маёмасці Пэна пасля яго смерці, то цяпер следчы піша, што сям'я Файнштэйн раптам пачынае цікавіцца, як завалодаць грашамі Пэна пры яго жыцці, гэта значыць, адняць іх яшчэ ДА яго смерці. Следства падае справу так, нібыта толькі забойства мастака дае магчымасць атрымаць гэтую маёмасць. Але мы ведаем (з таго ж абвінаваўчага заключэння), што быў і іншы спосаб — жаніцьба. І ад гэтага спосабу якраз адмаўляўся не Пэн, а Неха!*

*У абвінаваўчым заключэнні няма ні слова пра асобу забітага. Мы нават не ведаем, які яго ўзрост, хто яшчэ знаходзіцца з ім у сваяцтве.*

*Варта ўлічваць, што раз грошы Пэна можна было атрымаць і па завяшчанні (раз Лея прапаноўвала яму ажаніцца з Нехай і ён быў не супраць), то Пэн мог усё Несі і завяшчаць — вынік для сям'і Файнштэйн быў бы адным і тым жа. Я не ведаю, чаму следчы гэты варыянт зусім не даследуе. Але, як я думаю, менавіта з гэтай прычыны ён не гаворыць нам ні пра асобу Пэна, ні пра яго нашчадкаў, якія маглі быць у мастака, а падае справу так, што завалодаць маёмасцю можна было, толькі забіўшы Пэна. (Узнікае новае пытанне: калі ў сям'і Файнштэйн ведалі, што Пэн завяшчаў усе свае карціны дзяржаве і што тыя ўжо перапісаныя, то яны выдатна разумелі, што, забіўшы мастака, усё адно маёмасцю не завалодаеш, значыць, матыў забойства, пра*



Неха Файнштэйн.

*які піша следчы, не вытрымлівае крытыкі! —* ***Я.Т.****).*

*Я згодны з тымі, хто лічыць, што калі справа фальсіфікуецца, то заўсёды выкарыстоўваецца нейкі факт, які на самой справе мае месца. Але ён атрымоўвае іншую інтэрпрэтацыю. У прыватнасці, я мяркую, што гаворка пра тое, як пасля смерці Пэна атрымаць яго маёмасць, магла ўзнікнуць у сям'і Файнштэйн, але гэтай гаворцы следчы ў абвінаваўчым заключэнні надаў крымінальны характар.*

*Пасля паведамлення аб гэтых размовах у сям'і складальнік абвінаваўчага заключэння паведамляе ўжо пра планы сям'і Файнштэйн наконт неадкладнага абрабавання Пэна. Але гэта юрыдычна непісьменна, бо (са слоў следчага) відаць, што размова ідзе не пра абрабаванне, а пра крадзяжы, гэта значыць тайныя раскраданні.*

*Цікава і тое, як узнікае першы раз у гэтым дакуменце слова "забойства". Слова "забойства" ідзе пасля слова "абрабаванне" — выпадкова і без усялякай сувязі з папярэднім. Калі ўважліва глядзець тэкст, то мы бачым, што "забойства" ўзнікае раптам,хаця да гэтага размова ішла толькі пра абрабаванне. Дарэчы, тое, што следчы называе "абрабаваннем", на самой справе ёсць разбойны напад, але следчы чамусьці не адрозніваe адно дзеянне ад другога. Уражвае убогі, дужа непаўнацэнны стыль абвінаваўчага заключэння, адна чвэрць якога — гэта кавалкі, цытаты з пратакола агляду, прычым перанесеныя ў тэкст заключэння зусім механічна.*



І. Пэн. "Сляпы са скрыпкай".

*Гэтыя кавалкі і ў пратаколе былі вельмі дрэнна напісаны, а цяпер, будучы ўстаўленымі ў абвінаваўчае заключэнне, яны абсалютна нічога не праясняюць і, самае галоўнае, — не праясняюць версіі следства. Яны толькі ствараюць нейкую бачнасць абгрунтаванасці абвінаваўчага заключэння, у якім — і гэта самае важнае — поўнасцю адсутнічаюць ДОКАЗЫ, якія мае следства. Доказамі ж тут з'яўляюцца ўласныя прызнанні абвінавачаных (ад якіх яны самі ж адмовіліся) і абгаворы аднаго абвінавачанага другім. І ніякіх іншых доказаў у гэтым дакуменце няма. Следства па гэтай справе можа служыць бліскучай ілюстрацыяй абсурднасці тэорыі Вышынскага "аб прызнанні як царыцы ўсіх доказаў".*

*Сёння артыкул 77 КПК РФ прама гаворыць: "Прызнанне абвінавачаным сваёй віны можа быць пакладзена ў аснову абвінавачання толькі калі яно пацверджана сукупнасцю сабраных доказаў".*

*Варта адзначыць і нелагічнасць думкі пра тое, што частку грошай Пэна Неха пакінула, не кранула, як быццам бы для таго, каб адвесці следства ў бок.*

*Падводзячы вынік, скажу: сёння нельга дакладна сказаць, ці здзейснілі Абрам і Неха інкрымінуемае ім злачынства, аднак можна дакладна сказаць, што, мяркуючы па абвінаваўчым заключэнні, следства гэтага не даказала".*

**ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА**

У "Окнах" ад 14.06.98 (да пачатку публікацыі "Справы Пэна") быў надрукаваны ліст сп-ні Хаі Якавіцкай і мой каментарый да яго. Тады ўпершыню было названа прозвішча Міхаіла Аліфсона — аднаго з тых, хто праходзіў па "Справе Пэна". Вось радкі з гэтага ліста: "З той пары прайшло шмат гадоў, мне 82 гады, і, вядома, вельмі многія факты з гэтай справы ўжо не запомніліся, але вось памятаю, што ішлі размовы пра тое, што Міша, даючы паказанні, паведаміў, што "аднойчы, прыйшоўшы дамоў да Р. (маецца на ўвазе Неха Файнштэйн, да якой ён заляцаўся. — **Я.Т.**), не застаў яе дома, і калі яна прыйшла, то чамусьці была ў пальчатках. Было лета, і ён спытаўся, чаму яна ў пальчатках? Р. нічога не адказала, пайшла на кухню зняла пальчаткі, стала мыць рукі, якія былі ўсе ў крыві, што было потым, ужо не памятаю, але, як ні старалася Р., Мішу суд апраўдаў, і калі скончыўся суд, то Мішу публіка вынесла з залы суда".

Мяне вельмі зацікавіў гэты ліст. Я стаў капацца ў дакументах і выявіў, што памяць Хаі Якавіцкай захавала дакладныя дэталі справы. Праўда, крыху змясціўся час дзеяння: аўтар піша — "было лета" (магчыма, гэта водбліск сонечнага надвор'я ў час суда — у красавіку), але сустрэча Міхаіла Аліфсона і Нехі адбылася 28 лютага 1937 года, калі на вуліцы яшчэ была зіма, калі пальчаткі былі звычайным атрыбутам адзення. Іншая справа, што пальчаткі гэтыя фігуруюць у пратаколе судовага разбору. Але мы да іх яшчэ вернемся. А пакуль раскажу аб адной нечаканасці: на ліст і каментарый да яго адгукнулася дачка Міхаіла Аліфсона, якая жыве ў Ізраілі ўжо сорак гадоў. Назавем яе спадарыня S.

Мы сустрэліся, і яна шчыра падзялілася са мной інфармацыяй, што ў яе маецца.

Некалькі гадоў таму спадарыня S пачала збіраць звесткі пра лёс свайго бацькі. З Цэнтральнага архіва Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі яна атрымала наступны дакумент:

*ДАВЕДКА*

*Паведамляем, што ў картатэцы ўліку палітсастава СА значыцца: " Ст.палітрук АЛІФСОН Мхаіл Яфімавіч 1916 г. нараджэння, ураджэнец г.Віцебска. Палітрук роты 1418 стралковага палка. Памёр ад ран 27.2.1942 г., выключаны загадам № 01264 ад 4.12.1942 г. ГУФ КА".*

*Маецца дадатковы запіс: "Ст.палітрук 418 стралковага палка. Названы полк уваходзіць у склад 133 стралковай дывізіі.*

*ПАДСТАВА: ЦАМО, картатэка ўліку палітсастава СА.*

*НАЧАЛЬНІК АРХІВАСХОВІШЧА А.ГЛАДУН*

*23 студзеня 1995 г.*

*вык. Анохіна*

У другой даведцы значылася, што "старшы палітрук Аліфсон Міхаіл Яфімавіч <...> у Савецкай Арміі з 1938 г.".

**ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА**

Аб "Справе Пэна", па якой праходзіў Міхаіл Аліфсон, яго дачка, спадарыня S, даведалася ад маці. Як распавядала яе маці (адна з размоваў вялася пры мне па тэлефоне), Міхаіл Аліфсон захоўваў сшытак з запісамі гэтага судовага працэсу, у ім была і яго прамова, якая запомнілася прысутным і якую ён пачаў радком з Астроўскага: "Самае дарагое ў чалавека — гэта жыццё, і я заўсёды хацеў пражыць сваё жыццё сумленна, таму і буду гаварыць толькі праўду". Да гэтага часу жонка Міхаіла Аліфсона шкадуе, што не паклала гэты сшытак у чамаданчык, які ёй сабраў у дарогу муж. Яна з дачкой ледзьве паспела паехаць з Кіева перад тым, як у яго ўвайшлі гітлераўцы. Праводзіў іх, жонку і дачку, афіцэр, журналіст, у будучым (а можа быць, ужо і ў той час), старшы палітрук стралковай роты Міхаіл Аліфсон. Потым ад яго за ўсю вайну не паступіла ніводнага ліста.

Будучы ў камандзіроўцы на Украіне, спадарыня S пабыла на вуліцы, дзе знаходзіўся дом журналістаў, у якім яны жылі да вайны. Чаму дом журналістаў?

Міхаіл Аліфсон у 1937 годзе, як паказана ў пратаколах суда, быў студэнтам Мінскага універсітэта (факультэт журналістыкі), а потым — пасля судовага працэсу — перавёўся ў Ленінградскі універсітэт, дзе і закончыў журналісцкі факультэт. У Ленінградзе ён і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай — таксама родам з Беларусі. А з 1938 года (як паведамляецца ў даведцы) Міхаіл Аліфсон быў прызваны ў армію і, як сведчыць дачка, працаваў у кіеўскай ваеннай газеце.

**НЕЧАКАНАЕ АДСТУПЛЕННЕ**

Далейшы тэкст успамінаў спадарыні S я даю без зменаў. Я не маю права яго рэдагаваць, бо пасля нашай добрай і адкрытай сустрэчы спадарыня S звярнулася да былога маскоўскага адваката і папрасіла пракансультаваць яе з нагоды ліста Хаі Якавіцкай і майго каментарыя да яго. Адвакат сазваніўся са мной і па-сяброўску нагадаў мне пра тое, што:

а) я павінен быць асцярожны са словам; б) я не маю права браць інтэрв'ю ў дзяцей ці сваякоў тых, хто мае адносіны да гэтай справы; в) юрыдычна ён больш вопытны і расцэньвае гэту справу як чыста крымінальную, а не палітычную.

Гэты званок быў для мяне поўнай нечаканасцю, бо мы, як мне здавалася, па добраму і зусім шчыра гутарылі са спадарыняй S.

Я адказаў спадару адвакату, што буду вельмі асцярожны са словам і ўсё апублікаванае, у тым ліку і пра спадара Аліфсона, будзе пацверджана дакументамі. У сваю чаргу, я пацікавіўся, ці знаёмы спадар адвакат з дакументамі "Справы Пэна" і на чым грунтуецца яго перакананне ў тым, што справа гэтая чыста крымінальная. Адвакат шчыра адказаў, што дакументаў справы не бачыў. (Яшчэ адно невялікае адступленне: як толькі ў мяне з'явіліся дакументы, менавіта да гэтага чалавека я звярнуўся з просьбай іх пракаментаваць, але ён адмовіўся, паколькі быў заняты працай над уласнай кнігай. Мне і сёння шкада, што ў сваіх пошуках я не мог апірацца на думку гэтага найвопытнейшага юрыста.)

Што ж тычыцца юрыдычнай парады: у каго я маю права браць інтэрв'ю, а ў каго — не, то ў сувязі з гэтым я рэкамендаваў паважанаму адвакату звярнуцца да юрыста выдавецкай групы "Едыот ахранот", які прадстаўляе і газету "Вести".

Цяпер пра ўзятыя мной інтэрв'ю ў спадарыні S: гэта той рэдкі выпадак, калі не я шукаю інтэрв'юера, а ён расшукаў мяне. Мала таго, спадарыня S дазволіла запісаць нашу гутарку на плёнку. Яна ўласнаручна перадала мне фатаграфіі бацькі і якія-кольвечы дакументы.

## Тайны 37-га года

Спачатку я вырашыў толькі пераказаць тое, што казала мне спадарыня S, бо любая інфармацыя па "Справе Пэна" можа дапамагчы будучым біёграфам мастака. Але затым, улічваючы канфліктную сітуацыю, што ўзнікла вакол маёй персоны, я, не мяняючы ніводнага слова ў інтэрв'ю спадарыні S (нават для зручнасці чытачоў), публікую яго і ўстрымліваюся ад якіх-небудзь каментарыяў наконт расказанага ёю.

*(Працяг будзе.)*




Вялікая сінагога ў Віцебску.



***Кажуць, каб зразумець лад жыцця вялікага горада, дастаткова яго пакінуць, а каб зразумець чалавека — трэба ўбачыць ягонае жытло.***

***У кватэры прэзідэнта (я не пабаюся гэта падкрэсліць) міжнароднага кінафоруму жыве белая кошка, расце рознакаляровая герань на падваконнях і вісяць фотаздымкі ў рамках. За пылам на кніжных паліцах, здароўем гаспадара і надвор'ем на вуліцы сочыць маленькая (у сэнсе росту) энергічная, з прыгожымі блакітна-амерыканізаванымі валасамі жанчына — Ніна Давідаўна Янкоўская. Усё проста: Ён — кароль ліцадзейства, Яна — "мастак-афарміцель" ягоных асноўных роляў: мужа, бацькі, дзеда, акцёра і, нарэшце, прэзідэнта. Генерал Белай арміі, удзельнік бітвы за Порт-Артур Сяргей Афінагенавіч Нянасцеў — дзед Расціслава Іванавіча, гадавалая ўнучка Ганна-Марыя, падлетак-унук Дзяніс, абодва сыны, фота бацькоў часоў платонаўскага "Катлавана" — маўклівыя сведкі нашай размовы ў рамках на сцяне.***



# ПРЭЗІДЭНТ І ЯГО ЖАНЧЫНА

**ЖЫВЕ У "ЛІСТАПАД" У ЛІСТАПАДЗЕ!**

Лішне казаць!



*— Ніна Давідаўна, вам ніколі не карцела стаць вядомай артысткай? Улічваючы аўтарытэт Расціслава Іванавіча, на здымачную пляцоўку вам вельмі проста было б зайсці.*

**— Я ніколі не зайздросціла славе Славы. Мела любімую прафесію — педагога, цяпер яшчэ магу і смела дадаць: вучні мяне таксама любілі... І потым, я тыповая жонка-грузінка, мяне выхоўвалі на традыцыях грузінскай сям'і, у якой, калі раскладаць па ранжыры, дык на першым месцы — муж, на другім — ягоныя дзеці, і толькі ў трэцюю чаргу — жанчына. Памятаю выпадак амаль саракагадовай даўніны. Мы жылі з маленькім Ігарам у 14-ціметровым пакоі ленінабадскай камуналкі. І раптам да нас у госці прыязджае мой бацька. А 8-й гадзіне раніцы, адвёўшы сына ў садок, я пабегла на працу. А тата, як прачнуўся, убачыў майго мужа, яшчэ маладога акцёра Расціслава Янкоўскага, які з венікам у руках падмятаў падлогу. Адразу ж запытаў: дзе я? І з цвёрдымі ноткамі ў голасе дадаў: "Калі служба пачынаецца ў 8 гадзін, дык жанчыне трэба прачынацца ў 5 гадзін раніцы, каб паспець зрабіць сваю асноўную працу па доме". З тае пары я і мае сыны ўцямілі: будзе добра нашаму бацьку — будзе ўладкаваны побыт нашай сям'і. І нават калі дзеці ў сям'і выходзяць на першы план, дык жанчына ўсё роўна застаецца на другасных ролях...**

*— У шматлікіх інтэрв'ю Расціслаў Іванавіч неаднойчы называў вас "шчаслівай жанчынай, якую кахае адзіны мужчына — яе муж"...*

**— Я добра ведаю — што гэта за шчасце: быць жанчынай! Таму і нарадзіла двух сыноў. Хаця, упэўнена: жанчына павінна быць шчаслівай толькі таму, што яна ўжо жанчына.**

*— Вашая радзіма — цёплая краіна Грузія, ці не хацелася б...*

**— Ніколі. Для маці і жонкі радзіма там, дзе яе муж і дзеці.**

*— А з цягам часу роля бабулі дамініруе над астатнімі?*

**— Не зусім згодная з гэтым тэзісам, але ж не адмаўляю і гэтай сваёй функцыі. Разы тры на год я прыязджаю ў Маскву да старэйшага сына (Ігар Янкоўскі, акцёр, прэзідэнт Міжнароднага фестывалю рэкламнага фільма. — *Ж.В.*) менавіта як бабуля. Па справах сын з нявесткай, бывае, ад'язджаюць**

## ДЭСАНТ НАШЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ НА ПРЭЗІДЭНЦКУЮ КУХНЮ

**за межы Расіі, і я ахвотна нясу вахту на кухні. Толькі першае пытанне ў Ігара, калі ён тэлефануе ў Мінск, заўсёды аднолькавае: "Мама, як там тата? Ці зможа абысціся ён без цябе дзён дзесяць?" Пасля абавязкова раімся з Расціславам Іванавічам, і, урэшце, я еду ў Маскву. Праўда, перад ад'ездам пару гадзін "рэпеціруем" на тэму: прыгатаванне аўсянай кашы і варкі рыбы для кошкі...**

*— Неяк празаічна складваецца інтэрв'ю з жонкай прэзідэнта...*

**— А свята жаночае — быць патрэбнай родным кожны дзень, кожную хвіліну ў розныя часы прыгажосці жанчыны...**

*І трэба ж было мне адкрыць сакрэт дзяцінства на той момант, калі гаспадар утульнай кватэры загадам запрасіў на абед! Справа ў тым, што ваша пакорлівая служка паспытала пачуццё рэўнасці і зусім не абстрактнай любові ў даволі познім узросце. І калі шмат з нас праходзяць гэты першы ўрок у садку ці ў малодшых класах, дык мае універсітэты адбыліся пазней. Я літаральна ашалела ад рэўнасці да Аляксандры Клімавай, партнёршы Расціслава Іванавіча ў ролі Джэры падчас пастаноўкі "Двое на арэлях" паводле п'есы Гібсана. І гэта доўжылася да чатырнаццаці маіх гадоў на запар убачаных дзевяці спектаклях! Магчымасць расказаць артысту пра сваё захапленне была тысячу разоў: журналісцкае жыццё дарыла такія выпадкі неаднойчы. А тут — абед (у 14 гадзін!), утульная канапа з кошкай зрабілі мяне пяшчотнай жанчынай! Увогуле, атрымалася нетрадыцыйнае прызнанне... пры жонцы... Упершыню. Спадзяюся, Расціслаў Іванавіч ацаніў мой маналог, бо натхнёна працягнуў размову.*

**— Я мужчына, які цалкам залежыць ад жанчыны. Уся мая "нерухомасць" — дом і сцэна. І жадання прамяняць іх на штосьці іншае, незвычайнае і добраўладкаванае, у мяне не ўзнікала. Аднойчы я пачуў ад маскоўскага рэжысёра Каца, што сапраўднае каханне да жанчыны нараджаецца тады, калі разумееш, што ў старасці ты павінен жыць толькі з ёю. Хаця магу зразумець сяброў, якія не адзін раз будавалі свае сем'і.**

**Сённяшні час надта прыніжае нас, мужчын. Нашыя заробкі робяць стомленымі жанчын, а галоўны козыр мужчын — забяспечыць сям'ю. Дзякуй Богу, цяпер нам дапамагаюць сыны. Вядома, мы б як-небудзь пражылі і без іх дапамогі. Толькі вельмі крыўдна, калі твой прафесіяналізм, узведзены ў грашовы эквівалент, робіць цябе жабраком. Вось тады размова пра высокія матэрыі не мае сэнсу, бо адчуваеш сябе безабаронным і абабраным творцам.**

*— А прэзідэнцтва фестывалю "Лістапад"?*

**— Толькі дабрачынная акцыя. І, дарэчы, захапляльная праца!**

**Жанна ВАСАНСКАЯ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ,
Арсен ВАНІЦКІ,
Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар),
Анатоль ВЯРЦІНСКІ (першы намеснік галоўнага рэдактара),
Валерый ГЕДРОЙЦ,
Уладзімір ГІЛЕП,
Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ,
Аляксей ДУДАРАЎ,
Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ,
Вольга ІПАТАВА, Міхаіл ПТАШУК,
Алесь РАЗАНАЎ,
Віктар СКАРАБАГАТАЎ,
Юрый ЦВЯТКОЎ, Леанід ШЧАМЯЛЁЎ.

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў —
Надзея БУНЦЭВІЧ,
Жанна ВАСАНСКАЯ,
Барыс КРЭПАК,
Алесь ФІЛІПОВІЧ,
Валерый ШЫХАНЦОЎ
Спецкарэспандэнты:
Ганна АЛАДАВА,
Таццяна КОМАНАВА,
Сяргей МІНСКЕВІЧ,
Ілля СВІРЫН
Загадчык аддзела фотаілюстрацый —
Генадзь ЖЫНКОЎ
Мастацкі рэдактар —
Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон/факс: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3337.

Падпісана ў свет 19.11.98. у 18.30.

Замова 6772

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.